PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 7 (1918) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 14 ЛЮТАГА 1993 г. ЦАНА 2500 зл.

## НАШАЕ ЖЫЦЦЁ І СУЧАСНАСЦЬ

Ёсць розныя эпохі, а кожная з іх мае свае справы, свае праблемы. Цяпер у Польшчы прыйшоў цяжкі час вялікіх псіхічных выпрабаванняў. У людзях асталося так мала радасці, весялосці, надзеі, кожны глядзіць толькі, каб утрымацца на паверхні, каб працягнуць ха-ця да канца месяца, да новай палучкі. Справа не ў тым, што становішча цяжкае, але ў тым, што яно ў многіх выпадках бязвыхаднае. І як бы не глядзець на гэтую справу, пытаючы, чыя гэта віна і ці сапраўды таго мы хацелі, найбольшы цяжар упаў на плечы зусім да таго не падрыхтаваных маладых і вельмі маладых людзей. Выпускнікі прафесіянальных школ, тэхнікумаў, ліцэяў і вышэйшых навучальных установаў не знаходзяць свайго месца ў жыцці і ў грамадстве, адчуваюць сябе непатрэбнымі.

Такога аблічча капіталізму ніхто з нас і не думаў аглядаць. Памятаецца, як раней гаварылі, каб людзі пачалі дацэньваць работу, каб на гэтых п'яніц урэшце якісьці біч знайшоўся. Біч знайшоўся, але ўдарыў ён зусім не па тых, што ўсе спадзяваліся. П'яніцам нічога не пашкодзіла замена сацыялізму капіталізмам. Жывуць яны па-ранейшаму. У Беластоку сустрэць іх можна на кожнай вуліцы, у кожным аўтобусе, на любым аўтобусным прыпынку.

Няраз хвалявала мяне пытанне, адкуль у іх грошы? Хіба ёсць у іх праца? У такім выпадку чаму ж няма яе для маладых выпускнікоў школ, якія не паспелі яшчэ навучыцца піць і красці.

Маладыя не чакаюць вялікіх грошай, хочуць толькі рабіць штосьці карыснае і мець з гэтага асабістае задавальненне і невялікую заплату. Гэта няпраўда, што ўсе маладыя людзі вялікія эгаісты і гультаі. Часта гэтыя маладыя дзяўчаты і хлопцы намнога лепшыя працаўнікі, чымсьці старэйшыя, а гэта таму, што яшчэ не сапсавала, не скрывіла іх жыццё. Многія з іх гэта ідэалісты, якія свята вераць у чалавечую вартасць і годнасць. А пошукі работы, бязвыхаднае становішча забіваюць у іх усё, што светлае, вартаснае.

Ужо ў пачатку жыцця трацяць яны тую энергію, якая павінна служыць ім доўгія гады.

Думаю, што нашыя ўлады ў хуткім часе знойдуць выхад з гэтай цяжкай сітуацыі і дадуць магчымасць развіцця маладым.

Я, як настаўніца беларускай і рускай моў, няраз у апошні час мела магчымасць адчуць сваю „непатрэбнасць".

Амаль усе глядзяць на нас, спецыялістаў ад усходніх моў, як на нейкіх мамантаў ці тураў, якія пераблыталі час і папалі ў зусім іншую эпоху. Калі ўсе глядзяць на цябе з вялікім здзіўленнем, тады ўжо і сам пачынаеш думаць, што ты — адзінка, якая павінна цярпець за сваю схільнасць да ўсходніх моў. Задумалася я над гэтым і сама ўжо не ведаю, у чым я вінаватая і што дрэннага ў беларускай ці рускай мовах.

☞ Працяг на стар. 3



*Зіма на Падляшшы.* Фота Ю. Трачука

## ЦІ ПРЫХОДЗЯЦЬ ГСам КАПЦЫ?

Гмінныя кааператывы - ГСы - былі ў свой час гандлёва-эканамічнымі цэнтрамі па вёсках. Тут можна было прадаць і купіць амаль усё выпрадукаванае ў сельскай гаспадарцы і амаль усё патрэбнае для яе. Цяпер, найчасцей, велізарныя ГСаўскія пляцы і склады пусцеюць.

Чыжоўскі ГС арганізацыйна з'яўляецца філіялам гайнаўскага. Раней працавала ў ім 20 чалавек, і ніхто не сядзеў апусціўшы рукі. Яшчэ і наймалі людзей, напрыклад, разгружваць машыны з мінеральнымі ўгнаеннямі. Уся чыжоўская кавалерка ў такі спосаб зарабляла грошы на музыкі, на паўлітра і іншыя ўцехі. Мой швагер яшчэ сёння ўспамінае, як за ноч такой разгрузкі купіў сабе джынсы /тавар на той час рэдкі і страшэнна дарагі/.

Сёння ў ГСе ў Чыжах працуе тры асобы: дзве на складзе і адна - Ніна Данялюк - у бюро. Пусты стаіць вялікі новы адміністрацыйны будынак. Яму ўсяго толькі 5 год, нават нацешыцца ім не паспелі. Усярэдзіне кабінет кіраўніка, з мяккімі крэсламі, з дываном на падлозе, таксама чакае свайго гаспадара.

Калісьці ў гэтую пару года на пляцы не можна было прайсці між фурманкамі і трактарамі. Людзі бралі, перш-наперш, вугаль і мінеральныя ўгнаенні. Сёння вугалю няма зусім, а з мінеральных угнаенняў ляжыць толькі 15 тон магніевай салетры /1 мільён 650 тысяч злотых за тону/ і 10 тон суперфасфату /1 мільён 450 тысяч за тону/. Столькі можа купіць і адзін гаспадар. Праўда, маюць яшчэ давезці калійную соль, але колькі і па колькі - невядома.

Цяпер цэлая Чыжоўская гміна едзе за ўгнаеннямі ў Нарву. Тамака фірма "Пронар" прывозіць іх з Беларусі і прадае потым танней. Гэта і ёсць цвік у труну навакольным ГСам.

Але галоўная прычына заняпаду не тут, а ў Варшаве. Няма добрай палітыкі, от і ўсё. Да сённяшняга дня не прынялі закону аб кааператывах. "Калі толькі ў Сейме пачыналі пра гэта гаварыць, зараз жа паслы пераходзілі да абортаў, да хрысціянскіх вартасцяў у тэлебачанні ці таму падобнага, - кажа спадарыня Данялюк. - А нас тым часам дабіваюць падаткі: ад гандлёвага абароту, ад прыбытку, рэабілітацыйны /за тое, што не працуюць у нас інваліды/, ад пляца, ад будынкаў. І гаспадары робяцца штораз бяднейшымі. Калі толькі яны атрымліваюць грошы за малако, дык і ў нас ёсць тады нейкі рух. Але, на штодзень, бяда".

Чыжоўскі ГС ажывае раз у тыдзень - у панядзелак. У гэты дзень Бельскае мяснае прадпрыемства / аддзел Беластоцкага/ скупляе тут жывёлу, выкарыстоўваючы ГСаўскія будынкі і вагі.

Крыху прыбытку ёсць ад продажу пашаў і будаўнічых матэрыялаў: цэглы, вапны, шыферу. Аднак гэта не рашае пытання - што далей?

У гайнаўскім ГСе ёсць такая канцэпцыя ўзмацнення кааператыва: абмежаваць колькасць членаў да тых з большым фінансавым укладам і, тым самым, з рэальным голасам пры вырашанні істотных спраў. Мабыць такая рэформа будзе прыкладам і для іншых кааператываў, якія сёння на мяжы гібелі.

Адказу давядзецца яшчэ крыху пачакаць. Як і яснай, устойлівай палітыкі сённяшніх гаспадароў краіны.

МІКОЛА ВАЎРАНЮК

## ДОБРЫ ГРУНТ

Час ад часу на старонках газет з'яўляюцца матэрыялы аб нацыянальных меншасцях на Беласточчыне, у тым ліку і аб украінцах бельскай правененцыі. Пасля такіх публікацый многія нашы чытачы пытаюцца, чаму гэта якраз у паўднёва-ўсходняй Беласточчыне разгарнулі яны сваю дзейнасць. Здаецца мне, што гэтую з'яву можна спалучыць з тым, што дзеячы, якія лічаць сябе падляшскімі ўкраінцамі, вучыліся ў вышэйшых навучальных установах Любліна і там, у люблінскім украінскім асяроддзі, пачыналі грамадска-палітычную дзейнасць, ставаліся прыхільнікамі ўкраінскай культуры. На гэтым абшары ў выніку пасляваеннай акцыі „Вісла" і пазнейшых дэмаграфічных і асіміляцыйных працэсаў былі разбураны месцы кампактнага пражывання ўкраінцаў. У такіх умовах вельмі цяжка праводзіць там асветна-культурную і грамадска-палітычную дзейнасць. Новаспечаныя ўкраінцы палічылі, што такую дзейнасць можна без больших клопатаў весці ў сваім старонні, ведаючы, што беларускае насельніцтва прыхільна ставіцца да ўсяго ўсходнеславянскага, у тым ліку і да ўкраінскага. Цяпер, каб апраўдаць сваю дзейнасць, сталі яны даказваць, што карэнныя жыхары паўднёва-ўсходняй Беласточчыны карыстаюцца ўкраінскімі гаворкамі, а ў Трасцянцы і Віліннаве дык нават знайшлі тубыльцаў, якія па радыё абвясцілі гэта ўсяму свету. Тут трэба адзначыць, што тэрыторыя паміж Бугам і Нарвай знаходзіцца ў пераходнай дыялектнай паласе і ў гаворках паасобных вёсак можна знайсці элементы ўсіх трох мяжуючых моў: беларускай, украінскай і польскай. Сапраўды, у некаторых гаворках каля Чаромхі можна сустрэць украінскую фанетычную з'яву — „ікавізм" (вымаўленне „і" на месцы націскнога „о"). Але на гэтым жа моўным пагранічч сустрэнем таксама і польскія ўплывы. Напрыклад, у ваколіцах Сямяціч існуюць беларускія гаворкі з характэрным для польскіх дыялектаў „мазурэннем", і з гэтае прычыны ніводзін з мовазнаўцаў не палічыў іх польскімі гаворкамі. Такім шляхам, якім пайшлі журналісты ў радыёперадачы „Украінская думка", можна лёгка выявіць шмат іншых нацый, напрыклад рускіх, русінаў, яцвягаў, палешукоў, праваслаўных палякаў, а нават палаўцаў, і знайсці ахвотных прызнацца да гэтага перад мікрафонам.

Аб нацыянальнай прыналежнасці апрача мовы вырашаюць таксама гістарычныя дачыненні, кантакты, традыцыі. На працягу апошніх стагоддзяў тэрыторыя сённяшняй Беласточчыны не мела непасрэдных дачыненняў да Украіны. Але калі хто заўпарціцца, дык будзе даказваць, што такія ўплывы былі, а нават і сёння яны адчувальны. Прыпамінаецца мне, што пасля выступлення „Хлопцаў-рыбалоўцаў" на украінскім фестывалі ў Сопаце карэспандэнт „Нашого Слова" паведамляў у сваім допісе, што ў песнях гэтага калектыву адчуваецца пошум стэпавага ветру. Ну што ж, калі моцна хацець, дык можна пабачыць або пачуць тое, чаго ў сапраўднасці няма.

У снежні 1991 года Ваяводскі дом культуры ў Беластоку арганізаваў мерапрыемства, прысвечанае украінскай культуры. Прыехалі калектывы, прад-

☞ Працяг на стар. 2

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

***От употребления русского языка белорусы не откажутся, по крайней мере, ещё лет 80—100... В противном случае наш народ будет отброшен далеко назад. Ведь широкий доступ к мировой культуре сегодня в основном происходит на русском языке.***
***(Во славу Родины, н-р 215, орган Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь)***

Мы думаем (извините, товарищи!), што на беларускай мове далучэнне да сусветнай культуры можа адбыцца праз 10 гадоў, а не праз 80—100. Патрэбны адно шырокі доступ да гэтай мовы. А на расейскай мове (ещё раз извиняемся) беларусы будуць далучацца да сусветнай культуры рыхтык бы да сусветнага камунізму (таксама гадоў 80 гэтае трывала). Противный случай, што ні сказаць...

* * *

*Wałęsa zaapelował o udział USA — zarówno militarny jak i ekonomiczny — w przeobrażeniach dokonujących się w Polsce.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 11)*

„Эканамічны ўдзел” — справа больш-менш ясная, але „мілітарны”?! Не хочацца верыць, што Польшча не ў змозе праіснаваць нават 5 гадоў, не будучы нічыёй калоніяй.

* * *

*Komisja Regulaminowa Sejmu uznała „Immunitety erotyczne” Anastazji P. jako książkę szkalującą Sejm.*
*(Gazeta Współczesna, nr 9)*

Нам здаецца, што найбольшую шкоду Сейму прыносіць тэлебачанне, транслюючы выступленні ў Высокай палаце.

* * *

*Czasy teraz takie, że ksiądz zawsze będzie górą.*
*(Gazeta Wspolczesna, nr 15)*

Гадоў пяцьсот таму гэтае ўжо таксама разумелі. Нехта там сцвярджаў больш-менш такое: *Ksiądz pana chwali, pan księdza, a nam biednym zewsząd nędza.*

* * *

*Zmiana cen detalicznych wyrobów alkoholowych wynika ze znacznego wzrostu kosztów produkcji, spowodowanego...*
*(Gazeta Wspolczesna, nr 11)*

Аргументацыя рыхтык бы ў "Trybunie Ludu" за часоў Герка і Ярузельскага. Маем ўражанне, што ў журналістыцы безупынна нехта ад некага перапісвае. (Калі ідзе пра нашу рубрыку „Мы прачыталі”, мы хоць сумленна падаем крыніцу, адкуль перапісваем.)

* * *

*Poseł Twaróg z PC oskarżył Anastazję P., że „godzi w młodą polską demokrację”.*
*(Polityka, nr 4)*

Няма чаго далей прыкідвацца прыдуркамі: адкрыта прызнаемся, што мы прачыталі „Pamiętnik Anastazji P.” І таму часткова пагаджаемся з абвінавачваннем пасла Тварога. Некаторым дэмакратам, якім яна дагадзіла (а не — ugodziła), было ўжо за пяцьдзесят.

* * *

*Poseł R. Bartoszcze (Ruch dla Rzeczypospolitej) domagał się, aby powołano Komisję dla zbadania „dewiacji seksualnych niektórych posłów”.*
*(Polityka, nr 4)*

Дарма ён стараўся. Сексуальныя адхіленні ні ў сотай долі не ўплываюць на палітыку так, як разумовыя.

* * *

*Polski łyżwiarz na mistrzostwach Europy wyglądał tak, jakby ubierał go fachowiec oddelegowany do spraw mody przez ZChN. Było wszystko: falbanki, koronki, kołnierzyki ministranta. Brakowało tylko gromnicy w dłoni... Czyż można się dziwić, że tak ubrany młody człowiek czuł się nieswojo i upadł już po kilku sekundach...*
*(Polityka, nr 4)*

Здзіўляцца нельга, калі лёд не быў пасвячаны... Ідзем у заклад, што тыя пратэстанцкія фіны зрабіць такога не даўмеліся.

* * *

*Шлях да Бога ня йдзе толькі праз Маскву й Варшаву!*
***(Зважай, н-р 1(69), Канада)***

Лёгка такое сцвярджаецца камусьці, хто жыве ў Канадзе...

* * *

*Posłowie SLD wytoczyli proces Leszkowi Moczulskiemu, Antoni Furtok — Antoniemu Macierewiczowi, „Samoobrona” — Konfederacji Polski Niepodległej, Ireneusz Sekuła — Jackowi Maziarskiemu i „Tygodnikowi Solidarność”, Jacek Maziarski — Ireneuszowi Sekule, Aleksander Kwaśniewski — Andrzejowi Słowikowi, Leszek Miller — Mieczysławowi Gilowi i „Życiu Warszawy”.*
*(Wprost, nr 4)*

Гэта тлумачыць, між іншым, чаму паслам патрэбныя акуратныя парламенцкія дыеты (камандзіровачныя) і надта патрэбныя доўгія парламенцкія пасяджэнні...

* * *

*W jednym z zakładów grupa chłopców maltretowała — z nudów — kota; biła go, topiła w studzience ściekowej, wreszcie zgwałciła. Wychowawcy ocenili sprawców jako „typowych, przeciętnych wychowanków”.*
*(Wprost, nr 4)*

Мяў!!!

# З мінулага тыдня

**Віцэ-прэм'ер Павел Ланчкоўскі** сустрэўся 1 лютага г.г. з прадстаўнікамі беларускага асяроддзя: са старшынямі БДА - **Алегам Латышонкам**, БГКТ - **Аляксандрам Баршчэўскім** і галоўным рэдактарам "Нівы" - **Яўгенам Мірановічам**. У сустрэчы ўдзельнічаў віцэ-міністр культуры і мастацтва **Міхал Ягела**. Падчас спаткання ставіліся пытанні, якія найбольш хвалююць беларускую грамаду ў Польшчы, між іншым, справы школьніцтва і культуры. Больш дэталёва пра сустрэчу напішам у наступным нумары.

**Міністр нацыянальнай абароны Януш Аньшкевіч** падпісаў у Кіеве польска-украінскае пагадненне аб супрацоўніцтве ў вайсковай галіне. Пагадненне гэтае не мае характару мілітарнага саюза, аднак стварае шырокія магчымасці супрацоўніцтва ў ваеннай сферы. На заканчэнне візіту міністр Я. Аньшкевіч сказаў, што "Польшча хоча стаць членам Еўрапейскай Супольнасці, але не намерваецца адвярнуцца спіною да сваіх усходніх суседзяў".

**У Варшаве закончыўся "экуменічны карнавал"** - час малітваў за еднасць хрысціян. У найстарэйшай варшаўскай парафіі, у касцёле св. Кацярыны ў квартале Служэў ля рымска-каталіцкага алтара сустрэліся хрысціяне розных канфесій і прадстаўнікі мусульманскага веравызнання. Пропаведзь сказаў праваслаўны святар **а. Генрык Папроцкі**.

Рэдакцыя часопіса **"Przegląd Prawosławny"** прысудзіла штогадовыя прэміі імя князя Канстанціна Астрожскага за поспехі ў развіцці праваслаўнай культуры. Лаўрэатамі за 1992 год сталі: праф. **Аляксандр Рогаў** - гісторык сакральнага мастацтва з Расійскай акадэміі навук з Масквы, праф. **Аляксандр Грыгаровіч** - архітэктар з Познані, а. **Рыгор Сасна** з Рыбалаў і д-р **Антон Мірановіч** з Беластока.

**Трыста чэшскіх скінаў**, узброеных палкамі, прамаршыравала праз цэнтр горада Пардубіцы, выкрыкваючы лозунгі: "Чэхія для чэхаў!", "Паліцыя бароніць чорных свіней!" Марш гэты адбыўся ў гадавіну мінулагодняга інцыдэнту, калі атакаваны цыган застрэліў 16-гадовага скіна. Большасць цыганоў ужо напярэдадні дэманстрацыі пакінула Пардубіцы. У часе шэсця па горадзе скіны разбурылі некалькі цыганскіх дамоў, пабілі двое сустрэтых цыганоў. У выніку сутычкі з паліцыяй пяць чалавек было паранены.

**Рада атаманаў казацкіх узброеных фарміраванняў** запатрабавала ад кіраўніцтва Расіі не дапусціць да агрэсіі супраць Сербіі і дамагчыся адмены гаспадарчых санкцый, уведзеных ААН. Заявіла яна таксама, што расійскія казакі не будуць бяздзейна прыглядацца ўзброенай інтэрвенцыі Захаду ў былой Югаславіі.

**З праваслаўнай капліцы ў Плоцку** зладзеі вынеслі 18 каштоўных ікон. Падчас адсутнасці настаяцеля, зладзеі ўзламаліся ў ягоную кватэру і ў спальчаную з ёю царкоўную капліцу. На думку святара аўкцыённая вартасць кожнай іконы большая за мільярд злотых.

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

**ЗІМА. КАЛГАСНІК ПРАТЭСТУЕ...**

Здаецца, доўгі зімовы адпачынак беларускае сялянства не збіраецца праводзіць на печы, а рашуча змагаецца за свае правы. Днямі ў Менску адбыўся мітынг калгаснікаў, якія пратэставалі супраць прыняцця беларускім парламентам закону "Аб прыватызацыі зямлі". Калгаснікі баяцца, што пасля прыняцця гэтага дакумента іх сядзібы скупяць айчынныя і замежныя прайдзісветы.

Па іроніі лёсу ў гэтыя ж дні ў беларускай сталіцы адбыўся з'езд фермераў рэспублікі, дзе, наадварот, выказвалася незадаволенасць прамаруджваннем дэпутатаў з прыняццем закона аб прыватызацыі зямлі. Дарэчы, на сённяшні дзень у рэспубліцы налічваецца каля 2300 фермераў. А ў карыстанні самастойных гаспадароў знаходзіцца толькі 44 тысячы гектараў зямлі - кропля ў моры.

**НАМ НЕ СТРАШНЫ ШАЛЁНЫ КУРС**

Нягледзячы на шалёны курс амерыканскага долара /542 рублі/ і нямецкай маркі /323 рублі/ гэтая валюта карыстаецца агромністым попытам на Беларусі.

Ужо за няпоўны месяц бягучага года, як сведчыць Нацыянальны банк Беларусі, на валютных кірмашах рэспублікі прададзена каля 2 мільёнаў долараў і больш паўмільёна нямецкіх марак.

**ТАЯМНІЦА ЕЗУІЦКАГА КАСЦЁЛА**

У Пінску пачата аднаўленне аднаго з падземных хадоў мясцовага езуіцкага касцёла, які быў пабудаваны ў XVII стагоддзі. Ёсць надзея, што падчас рэстаўрацыі будуць знойдзены рэдкія гістарычныя каштоўнасці палескага краю.

**ЁСЦЬ ВУЛІЦА ЛАСТОЎСКАГА...**

Услед за перайменаваннем галоўнага праспекта беларускай сталіцы з Ленінскага ў праспект Скарыны вырашана адшукаць новыя імёны і для вуліц, што прылягаюць да плошчы Незалежнасці. Замест вуліцы Свярдлова з'явілася вуліца Вацлава Ластоўскага, Мяснікова - князя Глеба Менскага, Берсана - Адама Станкевіча. Пакуль невядома, стане цяперашняя вуліца Валадарскага вуліцай князя Рагвалода ці Гарадскім валам, а вуліца Урыцкага вуліцай кн. Рагнеды ці Раманаўскай Слабадой.

Чакаюць хрышчэння і састарэлыя апоры камуністычнага грамадства - вуліцы Савецкая, Камуністычная і Інтэрнацыянальная.

**БАСТАВАЛІ, АЛЕ ГРОШЫ АТРЫМАЛІ**

Леташняя двухмесячная забастоўка ніякім чынам не паўплывала на памеры прэміі за выслугу гадоў на вытворчым аб'яднанні "Беларуськалій". Эканамісты, праўда, прапаноўвалі зменшыць грашавую ўзнагароду прапарцыянальна неадпрацаванаму часу, але незалежны прафсаюз выставіў свой козыр - рашэнне аб забастоўцы было прынята працоўным калектывам. Генеральнаму дырэктару прыйшлося пагадзіцца.

**КРАЙ ЗАПАВЕТНЫ**

Так званая зона спакою створана ў пойме ракі Нёман на тэрыторыі Харціцкага сельсавета Мастоўскага раёна. Пэўна, не дачакаліся б жыхары мясцовасці шчасця, ды няшчасце - пагаршэнне экалагічнай абстаноўкі - дапамагло. Цяпер на гэтай тэрыторыі абмежаваны сельгасработы, высечка лесу, забаронена паляванне.

**КІРМАШ ВЫКЛІКАЕЦЦА НА БІС**

Пазыўныя чарговага "Славянскага кірмашу" зноў прагучаць над Дзвіной праз паўгода. Гэтае музычнае свята ў Віцебску грашыма падтрымаюць не толькі канцэртна-творчыя арганізацыі, але і міністэрствы культуры Беларусі і Расеі, дэпартамент па культуры пры прэзідэнце Украіны.

**ТАК ЗАВУЦЬ НАС НЕЗДАРМА**

У пачатковых класах некаторых віцебскіх школ замест ранейшых "акцябрат" з'явіліся "віцьбічы". Адзіная змена, якая адбылася ў сувязі з гэтым - цяпер замест акцябрацкай зорачкі з'явіўся значок "Віцебск".

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ”

Фабрыка наркотыкаў у Бельску.

Хто і колькі зарабляе?

Беларусы ў прэм'ера Рэчыпаспалітай.

Фэст культуры нацыянальных меншасцяў у Гданьску.

# ДОБРЫ ГРУНТ

☛ *Працяг са стар. 1*

стаўнікі навукі і культуры з Украіны. На Філіяле ВУ адбыўся семінар на тэму нацыянальных меншасцяў, перш за ўсё ўкраінскай. Прысутны на семінары украінскі інтэлектуал з Украіны сказаў мне ў кулуарах: „Не разумею, навошта украінцы пруцца сюды, на Беласточчыну. Жыве тут жменька беларусаў, і то ім не даюць спакою”. Меў ён рацыю, але і фактам з'яўляецца тое, што дзейнасць „нашых” украінцаў трапляе на добры, бо нацыянальна няспелы, грунт, на якім можна прабаваць ажыццяўляць нават найбольш невераггодныя нацыянальныя ідэі.

**В. ЛУБА**

## Наша ПОШТА

### ШАНОЎНАЯ РЭДАКЦЫЯ „НІВЫ"

Прыехаў я ў Польшчу ў 1980 годзе і з таго часу жыву ў Гарадку. Тады яшчэ жыла мая сястра, цяпер я ўжо астаўся адзін. Ад першых дзён майго пражывання ў Польшчы я чытаю „Ніву", у якой многа цікавых матэрыялаў. Гарадок расце і разбудоўваецца: пабудавалі тут многа блёкаў і асабнякоў, паклалі асфальт, паставілі новы аўтобусны прыпынак. Зрабілі тут таксама новы рынак, куды штодзённа прыязджаюць мае землякі-беларусы і танна прадаюць свой разнародны тавар. Люблю Гарадок і яго жыхароў, добрыя людзі тут жывуць.

Я маю да рэдакцыі „Нівы" просьбу прысласць мне на пошце „Беларускі каляндар". Буду вельмі рады і ўдзячны.

**Яўген Агароднік**
Гарадок 2
вул. Школьная 2

**Ад рэдакцыі:** Шчыра дзякуем нашаму чытачу за карэспандэнцыю. Просьбы Вашай, на жаль, не можам споўніць, бо не займаемся распаўсюджваннем „Каляндара". Здаецца, што каляндар на 1993 год яшчэ не выйшаў з друку. Звяртайцеся з гэтай справай у Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства, якое знаходзіцца ў Беластоку на вул. Варшаўскай 11.

## КАНЦЭРТ У ГАРАДКУ

24 студзеня 1993 г. у Гарадоцкім доме культуры выступіў з канцэртам харавы калектыў „Радуйся" Менскага машынабудаўнічага завода. Кіраўнічкай калектыву з'яўляецца спадарыня Алена Чарапан. У Гарадку на гармоніку хору падыгрываў Васіль Анікей. Хор, пры запоўненай і прыхільнай зале, выканаў праграму, на якую склаліся беларускія народныя песні і *некалькі расейскіх*.

Тое, што ў цяжкай эканамічнай сітуацыі беларускага руху на Беласточчыне сюды завітваюць час-часам калектывы з Беларусі, заўдзячваць трэба перш за ўсё „Бацькаўшчыне", якая мае магчымасць высылаць сюды групы, так сказаць, у турыстычным парадку, а па-другое — якраз цяжкай эканамічнай сітуацыі на Беларусі. Мы на Беласточчыне не ў змозе гарантаваць артыстам з Беларусі ганарары за выступленні (канцэрт у Гарадку быў бясплатны), таму пацііху разлічваем, што суродзічы з-за мяжы сфінансуюць самі, пабыўшы на базары ў Беластоку. Але адзін клопат усётакі застанецца — якім чынам іх тут пераначаваць? Калі б гмінныя асяродкі культуры захацелі ў сваю праграму ўвесці выступленні калектываў з Беларусі, трэба было б паклапаціцца адно пра начлег для выканаўцаў. Усё іншае ўладзілася б само сабою.

**(ямакс)**

## З МАЙГО ПАНАДВОРКА

Аднойчы запрасіла мяне мая знаёмая да сябе ў госці. Кажа яна: "Дзядзька Захар, прыдзіце да мяне на чай". Ну, што ж, калі запрашае маладая прыгожая жанчына, дык адмовіцца нельга. Я доўга не думаў і пайшоў. Жыве яна ў Міхалове на вуліцы Гарадоцкай. Неяк ускарабкаўся я ў кватэру на паддашку, прысеў адсапсціся, а мая знаёмая пабегла да суседзяў папрасіць вады на чай. Пры нагодзе я даведаўся, што ў яе кватэры няма вады, бо гмінныя чыноўнікі забылі правесці ў гэтую кватэру водаправод. І ходзіць яна да суседзяў знізу па ваду, хаця хапіла б усяго толькі пяць метраў трубы, каб вырашыць справу. Хадзіла яна ў гміну, але там ёй сказалі, што не маюць на гэта грошай і параілі правесці водаправод за свой кошт. Тады мне падумалася: а чаму гэта былі грошы пракласці водаправод на могільнік, бо хіба ж нябожчыкі не плацілі?

* * *

Неяк знаёмая зварыла чай, п'ем, размаўляем, ажно раптам чуем крык і лямант за сцяною. Убягае сусед з разбітай галавою, а за ім яго п'яная жонка з нейкай жалязякай у руках. Уціхамірылі мы іх, адвялі ў іхнюю кватэру, а там адно бруд і смурод. Цяпер зіма, а што будзе летам? Там напэўна нейкі тыф завядзецца або якая іншая халера. Мая знаёмая ўжо ўсюды хадзіла са скаргамі на гэтых суседзяў: і ў гміну, і на пастарунак. Ніхто не можа, ці не хоча іх супакоіць. Ці няма на іх спосабу? А што на гэта санітарная станцыя?

* * *

Перад Новым годам вырашыў я схадзіць у цырульню, бо з жонкаю на баль збіраўся ісці. Знайшоў цырульню аж на Фабрычнай вуліцы, з прыгожай шыльдай. Абстрыглі мяне за 25 тысяч на "вожыка", так як калісьці Герэк стрыгся. Але так падстрыглі, што я ўжо б студзеня зайшоў у Беластоку да сапраўднага цырульніка, каб паправіць сваю чупрыну. Ой, прыдаўся б у Міхалове сапраўдны майстар у гэтай прафесіі!

* * *

Пад Каляды купіў я пару бутэлек гарэлкі і піва, бо гасцей спадзяваўся. Прайшлі святы, засталіся пустыя бутэлькі. Стаў я думаць, куды здаць тару. Пустых бутэлек з-пад піва не купляюць /каштуюць яны па 1000 зл./. Калі здасі 10 пустых, то табе дадуць адну поўную. Іншая справа з бутэлькамі з-пад гарэлкі. Тых можаш нават і сто штук прынесці, то і так за гэта не дадуць ні поўнай пляшкі, ні грошай. Чаму ў Міхалове няма пункту скупкі бутэлек? Што аб гэтым думаюць войт гміны і прэзас ГСу?

**ДЗЯДЗЬКА ЗАХАР**

## УЖО ВЯСНА?

**Ваўчаягада звычайная** або воўчае лыка — як часам называюць гэту расліну, цвіце звычайна ў сакавіку — красавіку. Нетыповая сёлетняя зіма так паўплывала на гэтага вестуна вясны, што пачаў ён цвісці ўжо ў пачатку трэцяй дэкады студзеня г.г. Квітнеючыя расліны бачыў у белавежскім запаведніку прыроды яго шматгадовы працаўнік Пётр Мышкевіч.

**П. БАЙКО**

## ВІЗІТ КОНСУЛА

У чацвер 18 лютага г.г. наведае Беласток консул Рэспублікі Беларусь **Міхал Аляксейчык**. Усіх зацікаўленых інфармуем, што будзе ён дзяжурыць ад 9.00 да 13.00 гадзіны ў Ваяводскай управе, вул. Міцкевіча 3, пакой 16. Тэлефон: 324774.

Ад 16.15 да 18.00 консул РБ будзе госцем Беластоцкага радыё — праграмы "Zadzwoń do nas". Тэлефон у радыё: 23070.

## НАШАЕ ЖЫЦЦЁ І СУЧАСНАСЦЬ

*Працяг са стар. 1*

Столькі грошай каштавала дзяржаву і маіх бацькоў мая адукацыя, толькі гадоў я вучылася, каб цяпер кожны мог глядзець на мяне, як на чалавека горшага гатунку?

Усё сваё маладое жыццё я многа вучылася, а цяпер за схільнасць да роднага не маю магчымасці нармальна жыць. Ці сапраўды павінная я забыцца пра свайго „магістра" і зноў ад пачатку вучыцца? Сёння ты яшчэ патрэбны, але заўтра ўжо не — у такой сітуацыі стаяць многія настаўнікі.

А што з тымі, якія не здолелі ці не паспелі яшчэ змяніць свой прадмет на іншы? Не магу зразумець, чаму павінны мы цяпер зняважыць цудоўную мову, на якой пісалі Пушкін, Дастаеўскі ці Талстой; гэта ж не толькі мова савецкай эпохі, але і вельмі багатай рускай літаратуры, якая вядомая ва ўсім свеце.

Яшчэ больш не магу зразумець, чаму беларуская мова аказваецца такой непатрэбнай. Не так даўно паўстала Беларуская Дзяржава, але выглядае на тое, што ніхто гэтага факту не заўважыў. Нічога не змянілася ў адносінах да тае „горшае" мовы многіх жыхароў беластоцкае зямлі.

Так цяжка пагадзіцца з тым, што і ты, і тое, што ты добра ведаеш, вельмі любіш, нікому непатрэбнае. Прайшла мода, вось і ўсё.

**ЯЛАНТА ГРЫГАРУК**

## ЦІ І ГЭТЫ БАБЁР ЗГІНЕ?

Бабёр у Белавежскай пушчы быў пастаянным жыхаром да першай паловы XIX стагоддзя. Жыў ён на рэках Лясной, Нараўцы, Белай і Гвознай. Як цэнны, з увагі на футра і змесціва мускусных залоз, прамысловы від быў увесь час праследаваны чалавекам. І нарэшце сталася! Недзе каля 1836 г. ён у пушчы загінуў.

Бабры, якія зараз жывуць у Белавежскай пушчы, гэта патомства ад 12-ці штук, якія былі прывезены сюды ў 1956 годзе з левага прытока Нёмана — Шчары, і выпушчаны на рацэ Лясная, у беларускай частцы пушчы. „Госці", добра сябе тут адчуваючы, пачалі хутка перасяляцца на іншыя пушчанскія рэкі. У 1958 г. паявіліся яны на тэрыторыі Белавежскага нацыянальнага парку, на рацэ Нараўцы, ля вусця Гвознай.

Зараз у беларускай частцы пушчы жыве каля пятнаццаці бабровых сем'яў, мала менш і ў польскай частцы. Некаторыя кажуць, што бабрам у пушчы робіцца цесна. Магчыма так яно і ёсць, ды не абазначае гэта, што звяроў трэба пачаць забіваць.

Летам 1990 г. адзін бабёр пасяліўся ў самой... Белавежы; да таго на найбольш прыкметным адрэзку ракі Нараўкі — паміж пачатковай школай, а чыгуначным прыпынкам. Прабаваў ён рабіць плаціну на паваροце ракі, дык людзі пастаянна яму перашкаджалі. Калі настала зіма, бабёр часта выходзіў з-пад ільду, зрэзваў галінкі вярбы, асіны. На мосце, што на вул. Паркавай, збіраўся ў такіх момантах натоўп дзяцей і дарослых. Хто крычаў на звяра, хто кідаў у яго снежкамі. Якісьці п'яніца шпурнуў нават бутэлькай і пакалечыў бабра. На такія паводзіны „разумных" — а як жа! — істотаў не рэагавалі ні захавальнікі прыроды, ні настаўнікі, ні паліцыя. Дайшло нарэшце да таго, што напрыканцы чэрвеня 1991 г. нейкія варвары забілі таго ж бабра, сцягнулі з яго скуру, а тушу пакінулі на месцы.

І гэтак закончылася сяброўства дзікай жывёліны з чалавекам. А якім жа атракцыёнам магла б быць для саміх белавежцаў, а ўжо напэўна для турыстаў, бабровая плаціна ў цэнтры мястэчка! Экскурсаводы маглі б прыводзіць да яе турысцкія групы.

Дык не ўсё яшчэ патрачанае. Вось, у пачатку бягучага года на старой рэчцы, якая ўліваецца ў Нараўку, ля пачатковай школы, паявіўся другі бабёр. Ён ужо зрэзаў некалькі вольхаў і, магчыма, будзе будаваць плаціну. Трэба яму дазволіць на гэта. А і запушчанае людзьмі ўрочышча Каўшкі стане атракцыйным месцам.

А ці наогул у Белавежскай пушчы браканьеры ганяюцца за бабрамі? Думаю, што так! Мой сябра, Сяргей Тарасевіч, які амаль кожную свабодную хвіліну прызначае вандраванню па пушчы, кажа, што на рацэ Лясной раней ён прыкмячаў больш слядоў бабровай актыўнасці, чым зараз. Варта, каб на гэтую справу большую ўвагу звярнула лясная служба.

**ПЁТР БАЙКО**
**Фота Сяргея Тарасевіча**

*На рацэ Лясной відаць дзейнасць баброў.*

## ГАСПАДАР КАМЕНТУЕ

Кажуць, што:

— наш парламент складаюць не надта цікавыя індывідуумы, якія ўжо паўтара года вядуць дыскусію над законам аб недапушчальнасці абортаў і здаецца не закончылі яе як трэба; але цяпер пачалі ўжо не менш цікавую тэму, магчыма на наступнае паўтара года, аб абавязку мець у аўтамашыне аптэчку, але не могуць дайсці да паразумення з якімі лекамі — польскімі, ці заграннічнымі.

* * *

— парламентарыям аборты куды важнейшыя за ўсялякія аферы, у выніку якіх дзяржава патраціла більёны злотых; аферысты — гэта найчасцей дзяржаўныя тузы і пакараць іх амаль немагчыма, а бедныя жанчыны ўсё перанясуць.

* * *

— некаторыя палітыкі працуюць так, што могуць давесці да пятага падзелу нашай дзяржавы.

* * *

— калі Мачульскі возьме ўладу над войскам, тады пераверне армію ў найбольш агрэсіўную сілу, а ягоны зяць, калі ўзначаліць дзяржаўную бяспеку, завалачэ Бельведэр і ўсю апазіцыю ў ПГРы буракі капаць; а што тады будзе з меншасцямі?

**МІКАЛАЙ ЛУК'ЯНЮК**

# ЛІБЕРАЛІЗМ

Лібералізм гэта слова, якое выклікае сёння шмат супярэчных водгукаў. З аднаго боку прыхільнікі гэтай эканамічнай і палітычнай дактрыны паказваюць на дасягненні такіх дзяржаў як ЗША, Японія, Вялікабрытанія, Тайвань, Карэя, Нямеччына, з другога — яе праціўнікі даказваюць, што фінансавая сітуацыя, якой асновы стварыў Лешэк Бальцэровіч паводле ліберальных прынцыпаў, прывяла польскую эканоміку да поўнага развалу. Парадокс заключаецца ў тым, што сярод прыхільнікаў лібералізму ў Польшчы — прынамсі ў эканоміцы — ёсць большасць былой камуністычнай наменклатуры, сярод праціўнікаў — усе актуальныя левыя і нацыяналістычныя плыні, якіх лідэры — па-рознаму — раней былі ў камуністычным або салідарніцкім лагеры. Сацыялістаў усялякіх колераў найбольш хвалюе грамадска-эканамічная ідэалогія лібералаў, нацыяналістаў — палітычная.

Што значыць „лібералізм". Слова „liber" узятае з лацінскай мовы і даслоўна значыць „свабодны". Свабоду чалавек шукаў заўсёды, але толькі ў XIX стагоддзі паўсталі спрыяльныя ўмовы для сфармулявання дактрыны, якая ў рацыянальны спосаб акрэслівала б існаванне грамадства паводле прынцыпу: свабода для кожнага чалавека.

Абсалютызм XVIII стагоддзя знішчыў арыстакратычную апазіцыю, прынцыпова накіраваную супраць улады манархаў, скампраметаваў адначасова палітычную сістэму, у якой уся ўлада канцэнтравалася ў руках адзінкі.

На пачатку XIX стагоддзя ў заходняй Еўропе феадалізм канчаўся як эканамічная з'ява, асталіся толькі яго вонкавыя прыкметы — прывілеі феадальнай эліты і перакананне, што ўлада ёсць дадзеная Богам. Эпоха Асветніцтва стварыла новую ідэалогію, якая гаварыла, што ўлада існаваць можа толькі з волі народа, а ўсе людзі паводле прынцыпаў натуры і права павінны быць роўнымі і мець аднолькавыя шанцы. Асновай усяго палітычнага, гаспадарчага і грамадскага ладу павінна быць свабода чалавека.

Якая тады дзяржава, якая ўлада? Новая грамадская эліта — мяшчанства — хутка адказала на ўсе гэтыя пытанні. Падставай функцыянавання дзяржавы павінна стаць права, аднолькавае для ўсіх грамадзян, ад міністра да жабрака. Права гэта перш за ўсё канстытуцыя, якая акрэслівала б, хто ўстанаўлівае юрыдычны парадак, хто паводле яго кіруе дзяржавай, хто судзіць за парушэнне права, што можна грамадзяніну, а чаго нельга яму рабіць. Канстытуцыю і юрыдычныя асновы дзяржаўнага быту ствараць меў парламент, прадстаўніцтва толькі тае часткі грамадства, якая плаціла падаткі. Паводле гэтай філасофіі, дзяржава перш за ўсё павінна служыць грамадзянам, пільнаваць, каб кожны чалавек мог мець свабоду дзейнасці ў рамках акрэсленых правам. Лозунг „laissez faire" (дазвольце дзейнічаць) адносіўся перад усім да эканомікі і дамагаўся нічым не абмежаванай канкурэнцыі ў гаспадарцы. Паводле лесеферычнага прынцыпу дзяржава не павінна быць прысутнай у эканоміцы, не павінна мець ніякай уласнасці, не павінна ўмешвацца ў адносіны паміж працадаўцамі і працоўнымі, павінна толькі ствараць найлепшыя ўмовы для гаспадарчай дзейнасці сваім грамадзянам. Вялікая колькасць багатых грамадзян, гэта вялікая сума падаткаў. Але пра дабрабыт меў вырашаць рынак, без умяшання дзяржаўнага апарату. Вялікая адміністрацыя тады непатрэбная, бо яна толькі пабольшвае падаткі ад прадпрымальнікаў, пtypeменшваючы адначасова рэзервы на інвестыцыі і гэтым самым на стварэнне новых месцаў працы. Больш інвестыцый — гэта ў будучыні больш новых крыніц прыбытку.

У такой сістэме няма месца на арганізаваную дапамогу для бедных, ніякага фінансавання дзяржавай культуры, асветы, аховы здароўя. Усё гэтае прыдумалі сацыялісты. Паводле стваральніка класічнай ліберальнай тэорыі ў эканоміцы шатландскага эканаміста Адама Сміта не варта дапамагаць бедным, адбіраючы багатым, бо гэта вядзе толькі да таго, што робіцца штораз больш бедных. Бедны мае права стаць багатым, або згінуць нават з голаду. Дзяржава не можа даваць ім ніякіх сродкаў, бо будуць нараджацца новыя людзі, якім зноў будзе патрэбная дапамога і праблема ніколі не вырашыцца да канца, а толькі будзе пашырацца. Паводле лібералаў XIX стагоддзя лёс чалавека павінен залежаць толькі ад яго самога. Няхай тады ён сам змагаецца за сваю будучыню. Калі хтосьці хоча камусьці дапамагчы, гэта яго прыватная справа, але не павінна гэтага рабіць дзяржава, адбіраючы пры дапамозе падаткаў адным і даючы іншым.

Чалавек, паводле лібералаў, можа вучыцца, калі яму адукацыя патрэбная, і калі, зразумела, мае на гэта грошы. Школа гэта таксама фінансавая адзінка, а не харытатыўная ці місіянерская ўстанова. Праца настаўніка мае сваю цану, у залежнасці ад грамадскіх патрэбаў на яго паслугі.

Там, дзе выбралі гэтую мадэль грамадскага і эканамічнага развіцця — як, напрыклад, у Амерыцы — часта людзі плебейскага паходжання ў прамежках свайго жыцця стварылі асновы фінансавых імперыяў. У Англіі, дзе найхутчэй у Еўропе акліматызаваліся ліберальныя прынцыпы, у канцы XIX стагоддзя амаль не было непісьменных. Ва ўсходняй Еўропе ў той час толькі што прызналі сялянам права быць людзьмі, адмяняючы прыгонніцтва.

Неяк паралельна з лібералізмам ствaралася зусім супярэчная яму ідэя — сацыялізм. Лібералізм імкнуўся да таго, каб чалавек здабываў уласнасць і свабодна ёю распараджаўся. Сацыялізм, нягледзячы на розніцы ў поглядах стваральнікаў гэтай дактрыны на яе практычнае ажыццяўленне, будучыню бачыў без прыватнай уласнасці. Лёс адзінкі меў быць падпарадкаваны інтарэсам грамадства, а нейкая палітычная эліта мела справядліва дзяліць прыбыткі, выпрацаваны агулам насельніцтва. Сацыялістычная канцэпцыя патрабавала гіганцкага дзяржаўнага апарату і аграмадных сродкаў на яго ўтрыманне. Практычная рэалізацыя гэтай дактрыны вяла толькі да кансервавання палітычнай сістэмы, якая раней называлася „абсалютызмам". Манарха заступіў першы сакратар, графаў, баронаў ды іншых феадалаў — сакратары другараднага значэння. Сацыялізм рэалізаваўся перш за ўсё сярод сялянскага грамадства, якое беспраблемна ў кароткім часе акцэптавала яго ідэі.

Лібералізм ад брутальнай канцэпцыі нічым не абмежаванай канкурэнцыі на працягу дзесяткаў гадоў стварыў эканамічную сістэму, якая дазваляе дзяржаве даваць найбяднейшым такую дапамогу, якая дазваляе ім утрымаць дом, купіць аўтамашыны і нармальна жыць. Стварыў таксама грамадства, якое не сумняваецца над патрэбай свабоды слова, светапогляду, рэлігійнага жыцця і палітычнага выбару.

Натуральна ўзнікае тут пытанне, у якой дзяржаве мы жывем? Канструкцыя дзяржаўнага парадку імкнецца ў напрамку лібералізму, але ўсё, што знаходзіцца ў яе нутры, астаецца сацыялістычным — грамадства, чыноўнікі, права, школа, культура, мараль. І не важнае, ці гэта сацыялізм марксісцкі, дэмакратычны ці нацыянальны, ён дамінуе ў грамадскай свядомасці, друку, выказваннях знакамітай большасці палітыкаў. Калі аднак напрамак развіцця дзяржавы не зменіцца, магчыма, што за пару дзесяткаў гадоў грамадства адкіне феадальна-сацыялістычныя ўзоры і адобрыць ідэю развіцця паводле прынцыпу „свабоды для кожнага чалавека".

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**



## БЫДЛЯЧЫ СТРАХ І ПОМНІКІ

Артыкул Сакрата Яновіча „Няма хлеба — няма патрыётаў" („Ніва" н-р 1915) гэтым разам напісаны дасканала. Агарнуў мяне смех, можа і пусты, калі прачытаў словы „быдлячы страх". Гэта праўда, што бальшавікі ўявілі ў сваёй імперыі, каб яна не рухнула, быдлячы страх. А вядома, што быдла вельмі паслухмянае свайму гаспадару. Вось і на Крамлі сядзеў гаспадар — Сталін — са сваімі памагатымі — пастухамі. Падначаленыя ім народы жылі паслухмяна, як быдла. Вядома, аднак, і тое, што і сярод быдла бываюць наравістыя штукі. Вось і ў мяне была такая карова, хаця і давала шмат малака, заўсёды старалася вядро з гэтым малаком вывернуць нагою. Мусіў я яе прадаць на базе. Таксама было і з чалавечым быдлам у Расеі: хто натурыўся супраць бальшавіцкай тыраніі, таго вялі ў бойню: у Сібір, лагеры, турмы, ссылкі і пад сценку. Калі ж пастуха не стала, то ўсё перавярнулася дагары нагамі і быдла пайшло ў шкоду: у даўней застрашаным народзе ўзнікла 3000 мафійных бандаў. Што сеялі, тое і пажынаюць: зло.

Цяпер хачу некалькі слоў прысвяціць артыкулу Міколы Вáўранюка „Бацькаўшчына" — ужо знаёмыя прамовы" з таго самага нумара „Нівы". Алег Латышонак даў вельмі слушны адпор на выступленне міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пятра Краўчанкі, які абяцаў дапамагчы ставіць на Беласточчыне помнікі ахвярам тэрору ўзброенага польскага падполля ў першыя пасляваенныя гады. Гэта палітычная правакацыя, якая, апрача гора, нічога не дасць. Гэта будзе яўнае выступленне супраць цяперашняй улады ў Польшчы. Няхай ляпей улады Незалежнай Беларусі пастараюцца паставіць у сябе, на Беларусі, помнікі ахвярам бальшавіцкага генацыду. Паставіць помнікі дзесяткам тысяч нявінных людзей (у вачах Крамля — быдла), загінуўшых з рук сталінскіх катаў у Курапатах і ў многіх іншых месцах бальшавіцкіх злачынстваў.

Вядома, што Незалежная Беларусь цяпер бедная (калі яна была багатая?), ахопленая эканамічным крызісам — багатая яна затое помнікамі эпохі камунізму. Многа тут помнікаў Леніну і іншым „героям". У сувязі з гэтым маю прапанову — не нішчыць іх, але выкарыстаць у новай ролі: перавезці іх у месцы масавых забойстваў і паставіць там, прычапіўшы таблічку: „тыран беларускага народа". І людзі ўсё зразумеюць. Навошта новыя выдаткі на новыя помнікі? Беларусь на гэта надта бедная.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

## ЗАЗІМАК НАД ІСЛАЧЧУ /3/

Рэспубліка Беларусь - гэта Мінск і рэшта. Самы вялікі з іншых гарадоў, Гомель, у чатыры разы меншы. Гродна - у шэсць або сем. Сталіцу будавалі саветы не для беларускай нацыі. Меўся гэта быць заходні архіпелаг імперскіх мегаполісаў - Рыга, Кіеў, Львоў, - на якіх трымаўся б васьміног Масквы. Кесарык заўсёды будуе адзін цэнтр. Стацца масквічом у той час было раўназначным, што рымлянінам пры Нероне або Канстантыне.

Нудзячыся ў "Іслачы" я прачытаў у выпадковым нумары "Літаратуры і мастацтва" даследаванне штабнога афіцэра і пісьменніка Васіля Хомчанкі аб тым, хто страляў у Леніна ў 1918 годзе /увага: апублікаванае пасмяротна/. Напэўна не палеская жыдоўка Каплан... Бальшавізм у Расіі як гістарычнае непаразуменне. Або, можа жарт Сатаны? Стары Маркс падкрэсліваў, што камунізм ёсць нерэальны ў забітай ды замурзанай старане. Здэгенеруецца тады ў ідэалогію гультаёў і бандытаў. Сказаў, як у ваду глядзячы. Таму далёка не ўсё з марксізму прапускалі ў друк крамлёўскія цэнзары /напрыклад, жахлівую характарыстыку расійскага кантынента/.

Эксперымент Уладзіміра Ільіча закончыўся кваліфікацыяй створанай ім дзяржавы да ўзроўню "Верхняй Вольты з ракетамі".

Ходзячы ў Ракаў і па ваколлі сумна думалася, што назваць тутэйшы люд цярплівым - аніяк нельга. Нічога лепшага не пабачыўшы на сваім вяку, ён амаль задаволены лёсам. Ненавідзіць дэмакратаў; пры іх галадней. А тое, што - свабадней, дык яму напляваць!

Нашто рабу вольнасці? - аказваецца, нерытарычнае пытанне.

Тыповая сярэднявяковая сітуацыя: такую масу беспраблемна абрусілі і гэтак жа гладка вяртаюць на лона беларушчыны. Як пан захоча, так і будзе! Cuius regio, eius religio.

На вакне гудзевіць ад рання да ночы - даўно забытая ў нас - "точка". Беларускае радыё не тое, што колішняе; даецца слухаць. І вось дзіва: інтэрв'ю астролага! Ці лічыць ён, што Беларусь утрымае незалежнасць? Можаце не сумнявацца ў тым! - адказвае знаўца зорнага неба. Чаму? А таму, што клас беларускай наменклатуры ўжо рассмакаваўся ў ёй. Не баіцца яна лапы Масквы? Не, і маскалям на руку тая суверэннасць... Бачыце, Расія праз усёй гістарычны час не столькі развівалася, колькі пашыралася менавіта. У ёй гэта дакладана зразумелі цяпер і адбываецца пераарыентацыя з палітыкі анексіяў на палітыку ўнутранай дынамікі. Такой уцяміў тую логіку гісторыі якіх-небудзь дваццаць-трыццаць гадоў раней, бо ж не думаеце вы, што, напрыклад, Брытанскую імперыю перамаглі негры з дзідамі ці індусы са старасвецкімі шаблямі...

Астролаг гаварыў - яшчэ! - па-руску, але завяршыў прароцтва клічам: Жыве Беларусь!

І тут ахапіла мяне асабістая, зусім прыватная, рэфлексія. Быў жа сэнс траціць свае маладыя гады і здароўе на беларускую патрыятычную канспірацыю? Выратоўваць тыя недаедкі паланізацыі? Крышынкі духа беларусаў, што без мыла лезуць гурбою ў панскі зад?

Відаць - быў.

Калі пабачыць, як сёння ўчарашнія "ступайкі" і асімілянты парабіліся бела-чырвона-белымі ад пят да галавы... І навват так, што ты пры іх ледзь ужо не вораг роднай нацыі. А напэўна слабы патрыёт!..

Я, зрэшты, усё дарослае жыццё прахадзіў у варагах. Пры Гамулку ляснулі мне ў біяграфію пячатку нацыяналіста. Пры Герку - антысацыяліста. Ваеннае становішча ў Польшчы адбыў у якасці яе ненавідніка і агента /не ўведаў, чыйго/. Зараз, вось, скураю прадчуваю, што лепяць новую морду... Не думайце, каб у Варшаве або ў Мінску. Не і не!

Гэтак дагаджаюць, так званыя, свае хлопцы. З Беластока, Гайнаўкі, Бельска, Орлі, Рыбалаў, Бандароў, Гарадка... З Крынак - не, бо там мала-памалу з патрахамі апалячэлі; нават не здагадваюцца, што "Ніва" яшчэ выходзіць.

*/Працяг будзе/*

# СПАТКАННЕ ГОСПАДА

### ТРАПАР СВЯТА

*Радуйся, дабрадатная Багародзіца Дзева, бо з Цябе заззяла сонца праўды, Хрыстос Бог наш, што прасвятляе тых, хто ў цемры: весяліся й ты, старча справядлівы, што прыняў на рукі Хрыста-Вызваліцеля душаў нашых, Які падае нам уваскрасенне.*

У гэтае свята, якое Царквою адзначаецца 15 лютага (2 лютага паводле старога стылю) успамінаем прынясенне Прасвятой Дзевай Марыяй пасля сканчэння дзён ачышчэння (III Мойс. 12, 2-8) младзенца Ісуса Хрыста ў Іерусалімскі храм. Быў гэта абычай устаноўлены на памяць вывядзення яўрэяў з егіпецкай няволі. Згодна яўрэйскім законам кожны першародны сын мусіў быць сімвалічна ахвяраваны Богу, а потым адкуплены пасля злажэння адпаведнай ахвяры (II Мойс. 13, 2, 8; IV Мойс. 3, 13, 8, 16-18). У храме саракадзённага Збавіцеля сустрэў і ўзяў на рукі Старац Сімяон. Быў ён адным з ліку 72 перакладчыкаў Свяшчэннага Пісання Старога Запавету з яўрэйскай (у нейкай ступені напісанага таксама на арамейскай мове) на грэчаскую мову — гэты пера-клад вядомы ёсць пад назвай Септуагінты. Мела гэта дачыненне да тагачаснага цара Егіпта Пталамея II Філадэльфа, які ў 270 годзе да нара-джэння Хрыста вырашыў сабраць у бібліятэцы ў Александрыі ўсе вядомыя ў тадышнім свеце кнігі. Па яго просьбе яўрэйскі першасвяшчэннік Элеазар пасылае ў Егіпет перакладчыкаў (па 6 чалавек з усіх 12 ізраільскіх пакаленняў). Грэчаская мова была тады найбольш вядомай і даступнай ва ўсім цывілізаваным свеце. Усё гэтае было зроблена Промыслам Божым. Св. Сімяон тлумачыў Кнігу прарока Ісаі і калі дайшоў да слоў: „Вось Дзева ў чэраве прыме і народзіць Сына, і дасць імя Яму: Эмануіл” (Іс. 7, 14), усумніўся ў здзяйсненне гэтага прароцтва і палічыўшы яго памылкай, вырашыў арыгінальнае яўрэйскае слова Бетуля — Дзева, замяніць на слова Альма — маладая жанчына. Тады з’явіўся Анёл і абвясціў яму, што па гэтай прычыне ён не памрэ да той пары, пакуль не споўніцца прароцтва, а менавіта да таго часу, пакуль не возьме на рукі народжанага Дзевай Хрыста. З таго часу ён ужо не сумняваўся ў праўдзівасці слоў Свяшчэннага Пісання і ў сваім перакладзе змясціў слова, якое адпавядала арыгіналу, а менавіта Парфенас — Дзева. Калі прайшло 270 гадоў і Старац Сімяон прыняў у свае рукі Богамладзенца Хрыста, сказаў ён словы малітвы, якія Царква паўтарае кожнага дня падчас вячэрняга набажэнства: „Цяпер адпускаеш слугу Твайго, Валадару, па слову Твайму, з мірам, бо бачылі вочы мае спасенне Тваё, катора Ты прыгатаваў перад абліччам усіх народаў, святло для асветы паганаў і славу народу Твайго Ізраіля”. Гэтымі словамі Сімяон паказаў Марыі і Іосіфу, што ўжо раней яму была адкрытая Божая Тайна. Потым звярнуўся ён да Багародзіцы: „...вось, ляжыць Гэты на ўпадак і паўстанне многіх у Ізраілю і на знак, якому працівіцца будуць...”. Гэтымі словамі прадказаў ён бязлітасную барацьбу веры і няверы ў Збавіцеля. Падчас спаткання Ісуса ўдзельнічала таксама прарочыца Анна, якая прабывала ў Іерусалімскім храме, служачы Богу



малітвай і постам, а людзям — прапаведваннем Хрыста. Пасля выканання ўсяго, што патрабавалася законам, Іосіф і Прасвятая Дзева з Богамладзенцам вярнуліся ў Назарэт. (Лук. 12, 22-39).

Назва свята выводзіцца ад спаткання (сретения) Хрыста св. Сімяонам. Уваходзіць яно ў лік дванаццаці вялікіх царкоўных святаў і хаця назва паказвае, што гэта свята Госпаднае, то аднак паводле ўстава прысвячаецца яно Божай Маці. Святкавалі яго ўжо напэўна ў IV стагоддзі ў Іерусалімскай царкве, а ў V-VI ст. перайшло таксама і ў іншыя патрыярхаты. Аднак урачыстае адзначэнне гэтага свята пачынаецца на Усходзе ў палове VI стагоддзя. Мела гэта дачыненне да вялікай эпідэміі, якая здарылася ў ваколіцы Канстанцінопаля на пераломе 541 і 542 гадоў пры імператары Юстыніяне. Да гэтага дайшло яшчэ вялікае землетрасенне ў Антыёхіі і Малой Азіі. Менавіта тады ў час Свята Спаткання ў Канстанцінопалі служылі настойлівае ўсенароднае маленне — літыю — для збаўлення ад усіх гэтых бедстваў і з таго моманту няшчасці спыніліся.

Дзякуючы гэтаму святу Царква прызнае і замацоўвае факт, што Хрыстос сапраўды аб’явіўся свету, асуджае ўсіх старажытных лжэнастаўнікаў, якія адкідалі людскую натуру Ісуса Хрыста. На прыкладзе выпаўнення Багародзіцай і Збавіцелем патрабавання старазаветных законаў Царква напамінае нам аб абавязку выпаўнення Яе правоў і абрадаў, а таксама аб нашым ахвяраванні Богу. А славячы ў гэты дзень св. св. Сімяона і Анну дае прыклад, што ў Хрысце мы павінны знаходзіць нашае суцяшэнне і збаўленне, магчыма часта наведваць храм, малітвай і постам служыць Богу.

У традыцыі Царквы на нашых землях існуе таксама абычай святціць у гэты дзень свечкі — грамніцы, і таму ў народзе гэтае свята завуць „Грамніцы”.

Прынясенне ў храм саракадзённага Збавіцеля паслужыла для ўстанаўлення абычаю „ўводу”, або больш правільна „воцерковления”, калі гэта ў царкву маці прыносіць пасля сарака дзён (не раней) ад нараджэння ахрышчонае дзіця. У малітвах, якія ў прытворы чытае свяшчэннік, просіць ён Бога ачысціць маці з усялякага граху і нячыстасці і асвяціць дзіця дзеля яго развіцця. Трэба падкрэсліць, што гэты абрад датычыць толькі маці і павінна яна ў гэты дзень пайсці да Споведзі і Прычасця.

**С. Н.**

# ГОРАД КЛЯШЧЭЛІ

### VI. ГАДЫ ЗАПУСЦЕННЯ І АДБУДОВЫ

З пачаткам XVII стагоддзя ўся Еўропа адчула набліжэнне важкіх хвілін у сваёй гісторыі. У сувязі з надыходзячай датай 1666 года /яе звязвалі з лікам антыхрыста/ узрасталі эсхаталагічныя настроі. Гэтыя настроі падмацоўваліся яшчэ здарэннямі, якія чаргова ўскалыхвалі еўрапейскімі народамі.

У палове стагоддзя "судны дзень" наступіў і для нашых зямель. Балтыйскае мора "выступіла з берагоў" і скандынаўскія полчышчы залілі вялікія абшары /вайна са Швецыяй 1655-1660 г.г./. Для Падляшша гэта была сапраўдная стыхія. Сотні пасяленняў абязлюдзелі, гарады і мястэчкі выглядалі вельмі сумна, адна жальба насілася па-над палямі, засеянымі магіламі і шведскімі фортамі ды акопамі. Памяткаю гэтых трагічных падзей засталася да сёння, між іншым, "Шведская гара", распаложаная каля 1 км на паўночны-захад ад Кляшчэль /у лесе "Пухава"/. Старыя жыхары Кляшчэль гавораць таксама, што назва ўрочышча "Крывавы луг" паходзіць ад бітвы праведзенай са шведамі; пасля бітвы вада набрала колеру крыві.

Нездарма ў народнай памяці кляшчэлеўцаў захавалася такая вестка аб "шведскай" вайне. З ёю жа вяжацца найбольшы эканамічны і грамадскі заняпад горада. Каралеўскія люстратары, якія пасля вайны, у 1660 г. з’ехалі ў Кляшчэлі, пабачылі жаласнае відовішча. Гэты квітнеючы перад вайною горад, са звыш трох тысячамі жыхароў тады, цяпер быў спалены, сумны і знявечаны. 660 жыхароў, што тут засталіся жыло ў цяжкіх умовах /ацалела адно 15 дамоў/. З прычыны адсутнасці рабочай сілы 91% зямлі ляжала аблогам. Гаспадарчае жыццё горада трэба было прыктычна пачынаць з нуля.

Пасля 1673 года старастам Кляшчэль становіцца Аляксандр Феліцыян Цяшкоўскі, які атрымлівае гарадскі пасад ад караля Яна Сабескага па заслугах у бітве пад Хацінам /1673 г./. А. Ф. Цяшкоўскі, польскі шляхціц з Лэнчыцкага ваяводства, не быў кляшчэлеўцамі прыняты "за свайго" дый сам не надта зычліва адносіўся да патрэб мяшчан.

У 1677 годзе, калі горад ужо даволі ўпарадкаваўся пасля вайны, стараста пачаў з мяшчанамі весці спрэчкі за гарадскія даходы. Мяшчане неаднаразова спасылаліся на каралеўскія прывілеі і правы на загаспадаранне, дадзеныя пасля вайны. Барацьба мяшчан за свае правы прынесла станоўчыя рэзультаты. У 1688 г. дамагліся яны звароту ад Цяшкоўскага карчмы, пастаўленай на мяшчанскім грунце. Атрымалі таксама прывілею, якая забараняла яўрэям пражываць у горадзе /у 1676 г. у Кляшчэлях было 10 яўрэяў/.

Спрэчка мяшчан з Цяшкоўскім і яго наследнікамі на гэтым не закончылася. Амаль усё XVIII ст. старасты і мяшчане не даходзілі да агульнага паразумення. З прычыны безупынных скаргаў на старасту кароль Аўгуст III выдае у 1774 г. ліст, у якім адносна Цяшкоўскага піша: "czynsze, owies i groszowe nad prawa wybiera; grunta miejskie przywłaszcza; Żydów przechowuje i nimi się opiekuje".

Але, што ж, багаты адчуваў сілу і часта не зважаў на правы. Цярпенне кляшчэлеўцаў мела аднак сваю мяжу. Паводле пераказаў, паміж імі і старастам ды яго паплечнікамі даходзіла да рукапашнай барацьбы.

Нягледзячы на "хітрасці" старастаў горад у XVIII ст. паступова аднаўляўся. Мабыць ролю ў гэтым адыгрывалі і распалажэнне, і традыцыя. Паводле люстрацыі 1765 г. Кляшчэлі налічвалі 152 дамы, а гарадскія вёскі: Дабрывада, Кузава, Рэпчыцы, Чаромха, Поздыкі, Дашы - 231 дом. У 1777 г. вялікі пажар знішчае большасць горада. Захавалася толькі 35 дамоў. Даволі вялікі патэнцыял людзей дазваляе на хуткую адбудову; у 1794 г. Кляшчэлі налічваюць ужо 270 дамоў. Дзякуючы сваёй прыроджанай любві да працы ў кляшчэлеўцаў хутка ўзрастае эканамічны ўзровень жыцця. З прычыны слабых зямель, апрача земляробства мяшчане займаюцца рамяством і гандлем. Навакольныя пяскі былі выкарыстаныя для вырабу шкла. Тут каля 1758 г. узнікла гута шкла.

У канцы XVIII ст., калі Беласточчына разам з Кляшчэлямі знаходзілася ўжо ў складзе Новаўсходняй Прусіі, у горадзе было 20 вуліц з 279 дамамі, у якіх пражывала 1888 жыхароў; сярод іх 86 рамеснікаў і 6 паліцэйскіх. Паводле нацыянальнасці, найбольшы працэнт насельніцтва складалі беларусы. "Падляшскі мешчанін" Рох Сікорскі, у сваім "памятніку" заўважыў, што ў пачатку XIX ст. "амаль увесь агул гаварыў па-руску". Зразумела, што ў рускай большасці нават, палякі ўмелі гаварыць на гэтай мове, не гаворачы ўжо пра яўрэяў, якіх у канцы XVIII ст. было тут 58 чалавек.

У XVIII ст. рэлігійнае жыццё беларускага, тады уніяцкага, насельніцтва надалей гуртавалася навакол двух цэркваў: св. Міколы ды св. Юрыя. Пры гэтым апошнім храме перад 1727 годам была ўзведзена царква св. Ануфрыя, якая з часам стала інтэгральнай часткай Юр’еўскай царквы /"Візітацыя 1727 г./.

Да прыхода Юр’еўскай царквы, настаяцелем якой у 1727 г. быў а. Якуб Свідэрскі належала трэцяя частка Кляшчэль, Дабрывада і Курашава. Прыход Мікалаеўскай царквы абдымаў 2/3 часткі Кляшчэль, Чаромху /тут у 1799 г. жыхары пабудавалі царкву св. Кузьмы і Дзямяна/, Дашы, Кузаву і Сухую Волю. З візітацыі 1727 г. даведваемся, што настаяцелем царквы быў а. Васіль Кярсноўскі.

Знамянальнае, што пасля падрабязнага апісання царквы, у заўвагах да "Візітацыі" ні словам яе ўспомнена пра Свята-Мікалаеўскае брацтва, так невыгоднае уніяцкай іерархіі. Яно менавіта стаяла ў абарону уніяцкай царквы ў Кляшчэлях перад лацінізацыяй, якая пачалася мэтанакіравана пасля Замойскага сіноду 1720 г. Візітатар у 1727 г. забавязаў настаяцеля Мікалаеўскай царквы строга перасцерагаць пастановы гэтага сінода: "Presorpcyi Synodu zamoyskiego stricte postrzegać".

XVIII ст. гэта таксама перыяд развіцця і ўмацавання асветнай, школьнай працы ў кляшчэлеўскіх прыходах. Але пра гэта ў наступнай частцы.

*/працяг будзе/*

**Р. С. і М. С.**




**Redakcja "Niwa"**
**Szanowni Wydawcy,**

w związku z zamieszczeniem w Waszym Tygodniku notatki pt. "U bieławieżskich baptystaŭ" autorstwa p. Piotra Bajko, pragnę poinformować, iż oczekuję sprostowania w tej sprawie do końca lutego br. Rozumiem, że to sprostowanie znajdzie się na łamach Waszego Tygodnika.

Autor popełnił wiele karygodnych błędów. Część traktująca o historii Zboru podaje wyrywkowe fakty, pomijając wiele istotnych spraw i zasłużonych osób dla życia Zboru.

Fragment traktujący o budowie mieszkania kaznodziei zawiera nieścisłości czasowe, nieprawdziwe wiadomości o zatrudnianiu ludzi na budowie czy pracy fizycznej zborowników. Dane o dochodach są nieprawdziwe i bezpodstawne.

Treść i sposób opublikowania danej notatki narusza dobro osobiste Zboru Baptystów w Białowieży i niżej podpisanego.

**ks. Mieczyslaw Piotrowski**

**Ад рэдакцыі:** Белавежскіх баптыстаў перапрашаем за недакладнасці, пра якія ўспамінае айцец Мечыслаў Пятроўскі. Мы перакананы ў тым, што наш карэспандэнт Пётр Байко, хацеў прадставіць тэму як найбольш аб’ектыўна. Магчыма, што крыніцы якімі ён карыстаўся былі не надта верагоднымі.

## САРДЭЧНА ДЗЯКУЕМ

Праваслаўнаму Брацтву трох Віленскіх мучанікаў з Менска за пажаданні і прывітанні і жадаем поспехаў у іх высакароднай дзейнасці.

**Рэдакцыя "Нівы"**

## ILU JESZCZE BĘDZIE UMIAŁO ГАВАРЫЦЬ І ПІСАЦЬ?

Паводле афіцыйнай статыстыкі Куратoрыі асветы і выхавання ў Беластоку (падлік такі зрабіў бельскі аддзел Куратoрыі) у 1992/93 навучальным годзе беларускую мову вывучае 3784 асобы:

— у гайнаўскім ліцэі — 272,
— у бельскім ліцэі — 354,
— у пачатковых школах — 3158.

У абодвух ліцэях навучанне беларускай мовы мае абавязковы характар — колькасць вучняў, якая вывучае гэты прадмет адпавядае агульнай колькасці вучняў у абедзвюх школах. З ліку 44 абнятых доследам пачатковых школ толькі ў адной навучанне гэтае мае характар абавязку — у бельскай школе н-р 3 (1052 вучні). Ва ўсіх іншых пачатковых школах беларускую мову навучаецца па прынцыпу добраахвотнасці. У шасці з іх навучанне гэтае стаіць на даволі салідным фундаменце, значыць праходзіць у сямі аддзелах (беларускую мову ўводзіцца ў пачатковай школе ад II класа):

— Арэшкава — 76 (з агульнай колькасці 100),
— Дубіны — 115 (180), дадаткова адзін міжкласны аддзел,
— Кленікі — 105 (112),
— Храбалы — 70 (129),
— Чыжы — 128 (155),
— Орля — 177 (252), 14 аддзелаў.

Ва ўсіх іншых школах навучанне беларускай мовы праводзіцца ў менш, чым сямі аддзелах — перад усім міжкласных. Варта тут яшчэ згадаць пра дзве школы:

— Маліннікі — 87 (96), 5 аддзелаў і адзін міжкласны,
— Старое Ляўкова 113 (161), 5 аддзелаў і адзін міжкласны.

Школамі, у якіх удзел навучэнцаў беларускай мовы ў агульнай колькасці вучняў самы малы з'яўляюцца гайнаўскія пачатковыя школы:

— н-р 1 — 26 (1391),
— н-р 2 — 68 (1661),
— н-р 3 — 31 (218),

а таксама школа ў Чаромсе (пасёлак), дзе вучыцца 545 вучняў, а пра колькасць навучэнцаў беларускай мовы ў статыстыцы Куратoрыі ўвогуле не згадваецца. Мушу тут аднак звярнуць увагу на адну недакладнасць — паводле майго падліку ва ўсіх пачатковых школах беларускую мову вывучае, як гэта падаў я на пачатку, 3158 асоб, а ў даведцы Куратoрыі асветы падаецца 3165 як агульны лік навучэнцаў беларускай мовы ў пачатковых школах. Выходзіць, што 7 вучняў недзе прапала. Дай Божа, каб і ў Чаромсе яны вывучалі беларускую мову.

У 1992/93 навучальным годзе, у сувязі з доследам стану навучання беларускай мовы на Беласточчыне, Куратoрыя ўпершыню правяла апытанне адносна нацыянальнасці дырэктароў школ, у якіх навучаецца беларуская мова. На жаль, не магу тут прывесці верагоднай статыстыкі — куратар асветы спадар Пётр Літэрмус асабіста, нажніцамі, адрэзаў ад даведкі тую рубрыку, у якой нацыянальнасць падавалася.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

## АБ'ЯВА

Пляцы ад 450 да 1000 квадратных метраў прадам або памяняю на месца, дзе можна паставіць пасеку. Тэл. 259-41 /у Беластоку/.



# ФІНАЛ КОНКУРСУ "РОДНАЕ СЛОВА"

Дэкламатарскі конкурс пад назвай "Роднае слова", арганізаваны для вучняў падставовых школ, у якіх вядзецца навучанне беларускай мовы, быў даволі вялікага рангу культурна-асветным мерапрыемствам. Рыхтавалася да яго вельмі многа вучняў - з дванцаці пяці школ. Найперш адбыліся школьныя і раённыя элімінацыі ў двух катэгорыях вучняў: з класаў I-V і з класаў VI-VIII. Для прыкладу, у раённым аглядзе ў Гайнаўцы ўдзельнічала 46 юных дэкламатараў з трынаццаці школ. Не даехалі вучні са школы ў Курашаве. Што ж, і так бывае.

Цэнтральныя элімінацыі конкурсу адбыліся 23 студзеня бягучага года ў прыгожай прасторнай здадзеней нядаўна ў карыстанне глядзельнай зале ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы. Прыбылі 44 дэкламатары: дваццаць старшакласнікаў і 24 вучні малодшых класаў, ранейшых найлепшых удзельнікаў раённых элімінацыяў. Не з'явілася толькі адна, закваліфікаваная да ўдзелу ў цэнтральных элімінацыях, вучаніца Падставовай школы ў Нурцы.

Усіх удзельнікаў агляду сардэчна прывітаў і зычыў поспехаў дэкламатарам намеснік старшыні Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства Ян Сычэўскі. Дэкламацыі прайшлі на высокім узроўні - вядома, адбываліся жяны пасля так званых адборачных спаборніцтваў. Відаць было, што настаўнікі беларускай мовы многа папрацавалі з вучнямі. Яны таксама былі разам з імі і падчас конкурсу, супакойвалі, давалі апошнія парады.

У катэгорыі вучняў з класаў VI-VIII раўнапраўнае першае месца занялі: **Івона Алексюк** з Арэшкава /Гайнаўская гміна/, **Кася Сегень** з бельскай "тройкі" і **Аня Іванюк** з Кленікаў /Чыжоўская гміна/. Другое месца падзялілі: **Эля Васілюк** з Кляшчэляў, **Андрэй Купрыяновіч** з Дубяжына /Бельская гміна/ і **Ася Янушкевіч** з Нарвы. На трэцім месцы апынуліся таксама тры асобы: **Наталля Адзіевіч** з Орлі, **Агнешка Саеўская** з Кленікаў і **Аня Зін** з гайнаўскай "тройкі". У гэтай катэгорыі журы, якое працавала пад старшынствам Аляксандра Іванюка, прызнала два вылучэнні: для **Бажэны Селевановіч** з Кляшчэляў і для **Эдыты Навіцкай** з Ляшукоў /Нараўчанская гміна/.

У катэгорыі вучняў з класаў I-V журы прызнала тры першыя месцы **Анелі Кендысь** з Арэшкава, **Анэце Якуц** з бельскай "тройкі" і **Марыюшу Купрыяновічу** з Кленікаў. Тры раўнапраўныя другія месцы падзялілі **Анэта Леановіч** з Нарвы, **Аня Граматовіч** з гайнаўскай "тройкі" і **Пятрусь Несцярук** з бельскай "тройкі". На трэцім месцы скласіфікавана чатыры асобы: **Аню Сурэль** са Старога Корніна / Дубіцкая гміна/, **Івону Касцючук** з Кленікаў, **Пятруся Сянкевіча** з гайнаўскай "двойкі" і **Асю Тамчук** з Дубяжына. Былі таксама вылучэнні для **Ані Грайко** /адзінай на аглядзе першакласніцы/ з Пашкоўшчыны /Арлянская гміна/, **Давіда Скавародкі** з Дубічаў-Царкоўных і **Олі Рангайла** з Орлі.

Падборку твораў - вершаў і прозы - для дэкламацыі журы ацаніла пазітыўна. Былі гэта перш-наперш творы класікаў беларускай літаратуры ды літаратараў з Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа", у тым ліку, між іншым, А. Барскага, В. Шведа, М. Шаховіча і С. Яновіча.

Вельмі шкада, што ў сёлетнім дэкламатарскім конкурсе не ўдзельнічалі вучні са школ: у Нараўцы, Старым Ляўкове, Семяноўцы, Новым Беразове, Новым Корніне, Рыбалах, Гарадку, Чаромсе, Мілейчыцах і ў Беластоку. Не прыехалі дзеці з Варшавы і Гданьска.

Пасля конкурсу - ужо з нейкай палёгкай на сэрцы, і калі ўжо яго ўдзельнікі перасталі хваляваца, што, зразумела, здараецца пры ўсякага роду спаборніцтвах, і без напружанасці - дзеці весела бавіліся пры ёлцы, удзельнічалі ў "згадуй-згадулях" і конкурсах. У перапынку гульняў адбылася аўтарская сустрэча з "белавежцамі". Што праўда, была яна кароткая, а пасля яе свае кніжкі падпісвалі Віктар Швед і Янка Целушэцкі.

**ЯНКА ДАРОЖНЫ**

## КАБ НЕ РАБІЦЬ ВЫКЛЮЧЭННЯ

Лапатанне машыны для асушкі сцен разносілася па цэлым будынку. Кучы сарванага паркету завальвалі калідор. Ва ўсіх памяшканнях завіхаліся людзі, наводзячы парадак у знішчанай вадой школе.

Прайшоў дакладна тыдзень, як было спынена нармальнае функцыянаванне бельскай „тройкі", калі асветныя ўлады рашылі правесці тут кантроль вынікаў навучання. Правяралі школу ў сераду 27 студзеня кіраўнік дэлегатуры Куратoрыі ў Бельску Эдвард Хрэн і працаўніца гэтай установы, візітатар Ірэна Жменька.

Пан Хрэн зазначыў, што такі кантроль праходзяць усе школы ў Бельску. Таму не было падстаў, каб рабіць якое-небудзь выключэнне для Пачатковай школы н-р 3.

Відаць у польскай асвеце справы выглядаюць сапраўды дрэнь, калі ў працаўнікоў кураторыі не выклікаюць ніякага ўражання 40 тысяч літраў вады ў школьным будынку (а не ў басейне). Настаўнікі таксама не павінны браць такіх дробязяў у галаву. Патоп ці пажар, „работа есть работа"!

**ак**

На спартыўнай ніве

## ЗНОЎ „ТРОЙКА"!

У Беластоку адбыліся спаборніцтвы па лёгкай атлетыцы для падставовых школ. Удзельнічалі ў іх, між іншым, вучні з Падставовай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім.

Юныя спартсменкі з „тройкі" знайшліся ў групе пераможцаў. **Аліна Ткачук** заняла першае месца па бегу на дыстанцыі 2 х 60 метраў і другое месца на дыстанцыі 600 метраў,а яе сяброўка **Уршуля Місяйчук** заваявала другое месца ў скачках у даўжыню (4 метры 22 сантыметры).

У катэгорыі хлопцаў па бегу на дыстанцыі 2 х 60 метраў **Міраслаў Ёлчук** заняў трэцяе месца, але па бар'ерным бегу на дыстанцыі 60 метраў быў першым. У гэтай другой канкурэнцыі яго калега **Марцін Шышко** заняў другое месца.

Бельскай „тройцы" жадаем далейшых поспехаў на спартыўнай ніве.

**ЯНКА ДАРОЖНЫ**

# ПЕРЫПЕТЫІ З ГІМНАМ

*"Gazeta Wyborcza" (н-р 16) надрукавала тэкст свайго карэспандэнта ў Менску, які паказвае ўсю складанасць сітуацыі вакол выбару нацыянальнага гімна Беларусі. Усё што дзеецца ў гэтай справе палякам можа здавацца гратэскам. "Пагоня" беларускім параноікам пахне імперыялістычнай ідэяй, "Магутны Божа" здаецца быць рэлігійным гімнам, а "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" - фашыстоўскім. Паводле такога меркавання "Марсельеза" не мела б ніякіх шанцаў стаць гімнам французаў а "Мазурэк Дамброўскага" - гімнам палякаў.*

Рэд.

### ПЕСНЯ ПРА ТРАКТАР

**Рэлігійныя прымхі, феадальныя перажыткі ці прапаганда вайны і насілля? Перад такой дылемай стаяць беларусы, якія прабуюць выбраць новы нацыянальны гімн. Магчыма, што нашы ўсходнія суседзі сваім гімнам абяруць... паланез Агінскага.**

Беларусь, якая шторaз смялей чэрпае са спадчыны Вялікага княства Літоўскага, адносна хутка справілася з найважнейшымі сімваламі - гербам стала Пагоня, якую, праўда, раней прысвоілі сабе жэймайты /так у Менску шторaз часцей называюць грамадзян суседняй Літоўскай Рэспублікі/. Замест бальшавіцка-мусульманскага палотнішча БССР, названага так з увагі на чырвона-зялёны колеры, над парламентам лунае сёння бел-чырвона-белы сцяг. Пад падобнымі сцягамі харугвы Вялікага княства Літоўскага змагаліся пад Грунвальдам.

Але з гімнам справа зацягваецца. Конкурс быў аб'яўлены амаль год таму назад, але вынікаў да сёння няма. Прэм'ер-міністр Сухоцка падчас лістападавага візіту ў Менск, як за старых добрых часоў, слухала гімн савецкай Беларусі, у якім гаворыцца пра натхнёнае будаўніцтва камунізму разам з братняй Руссю. На шчасце гімн гучаў у інструментальнай версіі.

Самыя вострыя спрэчкі пачаліся тады, калі рэспубліканскія газеты апублікавалі тэксты прапанаваных твораў. Вэрхал паднялі абураныя ветэраны партыі, якіх лісты з задавальненнем друкавалі камуністычныя газеты. Не падабалася ім класіка беларускай паэзіі - твор Максіма Багдановіча "**Пагоня**" - бо ў напісаным у пачатку стагоддзя вершы знайшліся словы аб старажытнай літоўскай Пагоні. "Літоўская, значыць не нашая" - трыумфавалі таварышы. Паэту, які памёр яшчэ да рэвалюцыі, ставіўся ў дадатак закід у экспансіянізме - пісаў жа пра віленскую Вострую Браму. Верш назвалі феадальным перажыткам.

"**Жывем у атэістычнай дзяржаве** - пісалі іншыя "абураныя чытачы". - **Не маем намеру прасіць пра ўсё Бога, не патрабуем прымхаў і забабонаў**". Гэтыя лісты датычылі іншай прапановы - прыгожай рэлігійнай песні "**Магутны Божа**", малітвы да Усемагутнага аб апеку над бацькаўшчынай. Аўтарку, паэтэсу Наталлю Арсенневу, якая ад заканчэння вайны знаходзіцца на эміграцыі, абвінавацілі ў супрацоўніцтве з фашыстамі. Дакаралі яе, што падчас акупацыі працавала дзеля адраджэння беларускага школьніцтва, ліквідаванага камуністамі ў 30-я гады.

Не лепш аднесліся да іншай прапановы - вайсковага марша "**Мы выйдзем шчыльнымі радамі**". Тут справа была больш простая - твор прапагандуе насілле і мілітарызм, і гімнам быць не можа.

Падобныя выказванні чытачоў друкавала кансерватыўная "Советская Белоруссия", газета, якая выходзіць найбольшым, амаль 800-тысячным, тыражом. Але затое вынесла яна "канструктыўныя прапановы", каб замест класава чужых варыянтаў гімна, якія разглядаюцца камісіяй, стварыць нешта зусім новае. Мелодыя мела б застацца старая - савецкая, а новы тэкст павінен улічваць дасягненні сучаснай Беларусі, між іншым, поспехі ў сельскай гаспадарцы і вытворчасць трактароў на Мінскім заводзе. Гэтая арыгінальная канцэпцыя, відаць, асталася без водгуку.

**Канчатковы тэрмін заканчэння конкурсу на новы гімн Беларусі адтэрміноўваўся ўжо тры або чатыры разы. Цяпер вынікі павінны быць аб'яўлены 1 сакавіка. Тым часам шторaз больш прыхільнікаў заваёўвае ідэя, каб гімнам рэспублікі стаў паланез Агінскага, якога аўтар быў жа адным з палымяных патрыётаў сваёй айчыны - Вялікага княства. Для прыгожай музыкі няма яшчэ пакуль што слоў. Трэба мець надзею, што - калі паўстане такі тэкст - не будзе ў ім ні слова пра трактары.**

**ЦЭЗАРЫ ГАЛІНСКІ**

/*Gazeta Wyborcza, 20.01.1993 г.*/

# ШВЕДСКАЯ МЕНШАСЦЬ „У СЯБЕ" АБО ДЭМАКРАТЫЯ ПА-ФІНСКУ

Прыналежныя да Фінляндыі Аландскія астравы, якіх плошча складае 1,5 тыс. км², знаходзяцца пасярэдзіне мора, у палове дарогі паміж узбярэжжамі Швецыі і Фінляндыі. 500 гадоў таму назад было тут усяго некалькі скал (пасля ледавіковага перыяду ў Паўночнай Еўропе трывала яшчэ рэгрэсія Балтыкі). Чатыры тысячагоддзі пазней усплываючы паволі з мора архіпелаг стаўся адным з найгусцей заселеных рэгіёнаў Скандынавіі. Дзякуючы рухавым вікінгам, як і надзвычайнаму месцараспалажэнню вострава (на шляху між Швецыяй і Расеяй), гэтая натуральная прыстань дабілася сабе немалой славы, перш-наперш сярод напалоханых штормамі экіпажамі караблёў.

Гандлёвае і стратэгічнае месцазнаходжанне архіпелага мясцовым, вельмі прадпрымальным жыхарам, не заўсёды давала карысць. Асабліва суседзі трактавалі Аландскія астравы так, як найчасцей вяльможы гэтага свету адносяцца да малых-малюсенькіх, гэтых колаў ды кольцаў у шасцярні сваёй вялікай палітычнай машыны.

І так на працягу цэлага сярэдневякоўя і пазнейшых стагоддзяў (так як і суседняя Фінляндыя) астравы ўключаны былі ў састаў Каралеўства Швецыі. Адгэтуль насельніцтва архіпелага мае шведскае паходжанне, а і драўляная архітэктура ращуча напамінае хаты і ветракі з ваколіц Стакгольма і Мальмё. Таксама шведская мова застаецца галоўным і натуральным сродкам вусных і пісьмовых зносін паміж аландцамі.

У 1809 годзе пераможная ў вайне са Швецыяй Расія перахапіла ў свае рукі гэты важны стратэгічны пункт. Царскія намеснікі пастанавілі пабудаваць тут велічэзную крэпасць, а затым умацаваць цэлы архіпелаг. Падчас Крымскай вайны ў 1854 годзе брытанскія і французскія войскі атакавалі Аландскія астравы. Пабудова крэпасці не была яшчэ закончана. Нягледзячы на паражэнне, рускія захавалі кантроль над архіпелагам, хоць адначасова прымушаны былі прыняць абавязацельства адносна яго поўнай дэмілітарызацыі. Варта ў гэтым месцы адзначыць яшчэ тое, што доказам высокай культуры насельніцтва з'яўляецца ўтрыманы з павагай помнік, які быў пастаўлены ў знак ушанавання памяці гераічна загінуўшых рускіх салдат. Аландцы проста цэняць мужнасць, незалежна ад слушнасці самой справы.

На пераломе XIX і XX стагоддзяў Аландскія астравы праз супольную прыналежнасць да Расіі наладзілі добрыя зносіны з Княствам Фінляндыі. Гэта менавіта фіны пасадзейнічалі развіццю сённяшняй аландскай сталіцы — Марыянхаміны (заснаванай ў 1861 годзе царом Аляксандрам II у гонар царыцы Марыі Аляксандраўны). Быў імі разбудаваны і адміністрацыйны цэнтр горада. У 1917 годзе Фінляндыя, атрымаўшы незалежнасць, заявіла ахвоту „абняць" астравы на правах аўтаноміі. Іх жыхары хацелі аднак быць часткай Швецыі. Ліга нацый у 1921 годзе прыняла прэцэдэнтную пастанову ў карысць Фінляндыі.

Доўгатрывалае саперніцтва суседзяў на права панаваць на Аландскіх астравах давяло да адзінага слушнага вырашэння — архіпелаг з'яўляецца сёння здэмілітарызаванай зонай, своеасаблівым „астравамі міру". Аландцы ў прызыўным узросце ведаюць, што ніхто іх не прымусіць да воінскай службы. У блізкай перспектыве часу будзе тут створаны Аландскі інстытут міру.

Хіба найбольш захапляючым, можа адзіным у сваім родзе з'яўляецца маштаб аландскай аўтаноміі. Вось ледзь толькі 24 тысячы грамадзян Аландскіх астравоў маюць свой парламент — landstinget. Ён выбірае ўрад. Правамоцтвы парламента датычаць заканадаўства ў галіне асветы, аховы здароўя, культуры, а перш за ўсё — гаспадаркі. З пачаткам 1991 года стала дзейснай пастанова аб пашырэнні аландскай аўтаноміі.

Незалежнасць, абмежаваная толькі прысутнасцю фінскага губернатара, які стаіць на чале мясцовай адміністрацыі — гэта яшчэ не ўсё. Палітычнае жыццё на Аландскіх астравах шматграннае — у карысць супольнасці дзейнічаюць цэнтрысты, ліберады, сацыял-дэмакраты, зялёныя, члены Памяркоўнай партыі і Партыі незалежных. У 30-асабовым парламенце фарміруюцца кааліцыі і апазіцыі.

Шведская нацыянальная меншасць у Фінляндыі, якая жыве на архіпелагу, ведае, што за рэалізацыяй яе аўтаномных законаў з увагай сочыць уся Скандынавія. Заўсёды адзін з аландцаў засядае ў хельсінскім парламенце. Два дэлегаты ад астравоў удзельнічаюць у працы Рады скандынаўскіх дзяржаў — рэгіянальнай арганізацыі, якая з'яўляецца галоўным элементам арганізаванай надбудовы для супрацоўніцтва краін Паўночнай Еўропы ў галіне заканадаўства, эканомікі і культуры.

Сімвалам аландскай аўтаноміі ёсць яе ўласны сцяг. Для філатэлістаў сапраўднымі рарытэтамі з'яўляюцца мясцовыя паштовыя маркі.

Турыстыка — гэта сучаснае багацце Аландскіх астравоў. Цудоўная прырода, беззаганная чысціня асяроддзя, сляды мінулага — старадаўнія касцёлы, замак, скансэны, маляўнічыя дарогі і масты, прадуманая сетка гасцініц, „малая" і „вялікая" гастраномія, танныя прыстані, пазычальні яхтаў...

А як жыхары сцерагуць свае натуральныя і цывілізацыйныя рэсурсы? Магчыма, што гэта мала элегантнае, але іхні парламент забараніў валодаць зямлёю і весці гандлёвую дзейнасць для асоб з неаландскім грамадзянствам. І гэта тут якраз працэнтуе, павышаючы дабрабыт карэннага насельніцтва.

Апрацаваў
**ЮРКА БАЕНА**

## ДЗІКІ ПТАХ МІРЫ

Выйшла з друку першая кніжка Міры Лукшы "Дзікі птах верабей", пра што паведамляю прыхільнікаў яе таленту. Гэта зборнік каля трыццаці "бабскіх" апавяданняў. Цана аднаго экземпляра - дзесяць тысяч злотых. Прадаецца ў сакратарыяце "Нівы", таксама ў час аўтарскіх сустрэчаў.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**




## АЎКЦЫЁН У КЕЛЬЦАХ

27 лютага г.г. у Кельцах адбудзецца 8-ы антыкварны аўкцыён. Торгі на 600 розных выданняў будуць праходзіць у Клубе МПіК, што на вул. Варшаўскай 5. У аўкцыённым каталогу знаходзім м. інш. такія кніжкі:

Poz. 62 - Sztuka Stosowana /wyd. TPSS, Kraków/, R. 1909, zeszyt 12 /zawiera: Krzyże na Litwie/. Cena wywoławcza 40 tys. zł.

Poz. 105 - Mapa sztabowa rosyjska: Brześć Litewski, Pas 18, słup 2, 1906/1908, 44 x 62 cm. C. w. 30 tys. zł.

Poz. 161 - Nalepa T., Legiony rzymskie na ziemiach Polski i Litwy, Londyn 1985. C. w. 60 tys. zł.

Poz. 162 - Nałęcz-Dobrowolski M., Okrucieństwa Niemców na Kresach Wschodniej Polski, Warszawa 1918. C. w. 30 tys. zł.

Poz. 167 - Orkan Wł., Droga Czwartaków od Ostrowca na Litwę 1915, Kraków 1916. C. w. 60 tys. zł.

Poz. 174 - Piskor T., Wyprawa wileńska, W-wa 1919. C. w. 40 tys. zł.

Poz. 281 - Chętnik A., Kurpie, Kraków 1924. C. w. 20 tys. zł.

Poz. 293 - Kłos J., Wilno, Przewodnik krajoznawczy, Wilno 1929. C. w. 60 tys. zł.

Poz. 352 - Bartoszewicz K., "Łyki" i "Kołtuny", Pamiętnik mieszczanina podlaskiego /1790-1816/, Kraków. b. r. w. C. w. 40 tys. zł.

Poz. 367 - Chmielowski P., Liberalizm i obskurantyzm na Litwie i Rusi /1815-1823/, W-wa 1898. C. w. 20 tys. zł.

Poz. 381 - Dąbski J., Pokój ryski, W-wa 1931. C. w. 120 tys. zł.

Poz. 402 - Grabowski T. S., Rosya jako "opiekunka" Słowian, I: Ruś - Ukraina, Kraków 1916. C. w. 10 tys. zł.

Poz. 414 - J. S., Na drodze do rozwiązania sprawy Litwy historycznej, Etapy polskiej myśli politycznej, Kraków /1920/. C. w. 20 tys. zł.

Poz. 441 - Krzyżanowski S., Problem wschodni w historyi polskiej, Kraków 1916. C. w. 16 tys. zł.

Poz. 524 - Srokowski K., Sprawa narodowościowa na kresach wschodnich, Kraków 1924. C. w. 30 tys. zł.

Poz. 548 - Tarnowski St. hr., O Rusi i Rusinach, Kraków 1891. C. w. 20 tys. zł.

Poz. 553 - Tretiak J., Piotr Skarga w dziejach i literaturze Unii Brzeskiej, Kraków 1912. C. w. 80 tys. zł.

Poz. 583 - Zajączkowski S., Dzieje Litwy pogańskiej do 1386 r., Lwów 1930. C. w. 45 tys. zł.

**Пісьмовыя заказы на аўкцыён можна высылаць на адрас:** Antykwariat Naukowy - Andrzej Metzger, ul. Warszawska 6, skr. poczt. 88, 25-953 Kielce. **У іх неабходна падаць: нумар пазіцыі, прозвішча аўтара, першыя словы загалоўка і найвялікшую прапанаваную цану / ліміт/.**

**ПЁТР БАЙКО**

# МАСТАК, ПАЧВАРЫ І ІНКВІЗІЦЫЯ

***Калі розум спіць, прабуджаюцца пачвары*** — гэтак іспанскі мастак Францыска Гоя (1746—1828) падпісаў адзін з афортаў у сваёй знакамітай і сусветна вядомай серыі *Caprichios* („Капрызы", 1797-98). Гоя стварыў гэтую чорна-белую графічную серыю ў перыяд пералому, як у сваім асабістым жыцці, гэтак і ў грамадскай сітуацыі ў Іспаніі. У выніку хваробы ён амаль цалкавіта страціў слых. А ў краіне ў той час разгарнулася напружаная палітычная барацьба: маладое пакаленне іспанцаў, заражданае прыкладам Французскай рэвалюцыі, выступіла супроць феадальна-клерыкальнай рэакцыі. Раней вядомы як стваральнік дэкаратыўнага мастацтва (за серыю малюнкаў для шпалераў каралеўскай мануфактуры ён атрымаў ад караля тытул прыдворнага мастака), Гоя ў „Капрызах" звярнуўся да гратэскнай формы. Афорты, у якіх Гоя скарыстаў як сілу свайго абвостранага хваробай таленту, гэтак і народныя павер'і, казкі і ўсю сферу дэманічна-вядзьмарскага фальклору, накіраваныя былі супроць тупасці, зла, насілля, фанатызму і выраджанасці грамадскіх адносін у Іспаніі. Высокая алегарычнасць „Капрызаў" спалучаная з надзвычай рэалістычнай тэхнікай малюнка. У афортах бачым выявы аслоў, якіх вучаць, забаўляюць і партрэтуюць паслужлівыя мышы, аслоў, якіх на сваіх плячах носяць іспанскія мужыкі, або зноў жа тупамордых пачварных манахаў, якіх з казальніцы павучае тоўсты папугай. Іспанская рэчаіснасць таго часу бачылася Гоі як шабаш ведзьмаў і жудасных пачвараў. За гэтымі фантастычнымі вобразамі, безумоўна, хавалася і палітычная сатыра, і грамадская карыкатура. Нічога дзіўнага, што творчасцю Гоі зацікавілася іспанская інкцізіцыя, убачыўшы ў ёй недапушчальнае вольнадумства і антыкасцельную накіраванасць. Аднак жа зрабіць Гоі працэс як ведзьмару і паставіць яго на аўтадафэ інквізітары не наважыліся — магчыма, тут мастака ўратавала моцнае пратэктарства каралеўскай сям'і.

Гэтую жменьку інфармацыі пра Францыска Гою я палічыў патрэбнай, каб адзначыць для чытачоў незвычайную падзею ў культурным жыцці нашага сталічнага Беластока. У днях 24—28 студзеня студэнты Вышэйшай тэатральнай школы ў Беластоку (III курс, факультэт лялечнага тэатра) ставілі спектакль *Caprichios*, абаснаваны якраз на вышэй абрысаваных фактах з творчай біяграфіі мастака. Спектакль можна назваць хутчэй за ўсё пантамімай; важны ў ім быў сцэнічны рух і дасканалая музычная ілюстрацыя (гучала „Страсць паводле св. Лукі" К. Пэндэрэцкага). Тэкст, які выкарыстоўваўся ў спектаклі надзвычай ашчадна, наогул пачэрпнуты быў з вядомага рамана Л. Фейхтвангера „Гоя".

Паўтара дзесятка студэнтаў, у фантастычных і злавесных масках, апранутых у зрэбныя строі ахвяраў аўтадафэ, узнавіла на школьнай сцэне змрочна-паранаічную атмасферу „Капрызаў" Гоі і, шырэй, грамадскую сітуацыю ў абставінах рэлігійнага фанатызму і неталерантнасці. Як кажуць, суадносені да актуальнасці паяўляюцца ў гледача самі сабою.

Гэты надзвычай удалы і адважны спектакль праходзіў пры камплекце публікі (наогул — маладой). У апошні дзень пастаноўкі гурма ахвотных пабачыць *Caprichios* вымушана была вярнуцца дахаты — не хапіла месцаў. Шкада.

Заканчэнне спектаклю мела сімвалічны характар. У 1802 г. Гоя стварыў дзве партрэтныя выявы жаночай постаці (вядомыя пад умоўнымі назовамі „Маха апранутая" і „Маха голая"; маха — іспанскае акрэсленне дзяўчыны-модніцы з гарадскога простанароддзя). Інквізітары (у спектаклі) спрабуюць спаліць маху з карціны на аўтадафэ, але яна перамагае інквізітарскае полымя і ўваскрасае. Свет красы і натуральнасці перамагае пачварнасць і смерць. Маха вяртаецца на сваё месца (у рамкі карціны Гоі, у свет святла і гармоніі).

**ЯН МАКСІМЮК**

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ '93

**Першы сёлетні раённы агляд конкурсу „Беларуская песня '93" адбыўся ў Сямяціцкім асяродку культуры 7 лютага бягучага года.**

**Два чарговыя раённыя агляды адбудуцца ў нядзелю 14 лютага гэтага года ў Гайнаўскім і Бельскім дамах культуры. Будуць яны распачынацца ў 10 гадзін раніцы.**

**Цэнтральныя элімінацыі адбудуцца ў суботу, 20 лютага г.г. у Філармоніі па вуліцы Падлеснай 2 у Беластоку. Пачатак а 10 гадзіне.**

**На наступны дзень, у нядзелю, 21 лютага ў Беластоцкай філармоніі прадбачаны два гала-канцэрты: першы пачнецца а гадзіне 14, другі — а гадзіне 17. Апрача лаўрэатаў і іншых найлепшых беларускіх калектываў і салістаў выступіць прафесіянальны эстрадны калектыў песні і танца „Дзіва" з Менска (Рэспубліка Беларусь).**

**(ЦЯ)**




## ФАНТАСТЫКА І РЭАЛІІ

З захапленнем прачытаў я ў "Ніве" ад 17 студзеня г.г. фантастычна-навуковую візію Беларускага музея ў Гайнаўцы, якую з агромным размахам прадставіў Аляксандр Вярбіцкі ў артыкуле "Лапці, манітор і экстаз". Цудоўная, фантастычная візія музея XXI стагоддзя. Вось "на старой бабулінай пасажнай скрыні стаяць будзе вялікаэкранны манітор. У кухні, з-пад дзядулевага ложка выглядаць будзе меншая лазерная друкарка. На лаве, у гліняных гладышках, прыкрытых дыскеткамі, стаяць будзе салодкае і кіслае малако. Паміж гладышкамі і ступай ляжаць будзе сырнік з тварагом, прыціснутым сканерам". Калі сырнік не скісне, дык наведвальнікі Музея будуць мець магчымасць нават паспрабаваць яго. Як так далей пойдзе, то ў Музеі апынуцца чарговыя каштоўныя экспанаты мінулых эпох і будучых стагоддзяў. Каб толькі Бог даў прычакаць гэты момант, бо цяпер пабудова зацягваецца з-за недахопу грошай. Ну, памарыць заўсёды прыемна.

Шкада толькі, што А. Вярбіцкі ў аснову сваёй фантазіі паклаў сварку, якая ўжо некалькі гадоў точыць беларускі актыў. Але каб б у аснову яго артыкула леглі іншыя рэаліі, то мог бы ён стаць класікам беларускай фантастычнай літаратуры, бо дар у яго дзеля гэтага ёсць.

**ЮЛІЯН КАЗБЯРУК**

# АГОНЬ І ДЫМ

Жыццё чалавека найчасцей манатоннае і нуднае: калі спатыкаюцца двое знаёмых, то найчасцейшым адказам на пытанне „што чуваць?" з'яўляецца „нічога новага" або „старыя беды". Здараецца аднак, што час ад часу манатонію гэту парушае рэдкае здарэнне, якое будзіць нас з дрымоты і прымушае адкрыць вочы на тое, што дзеецца навокал і пры нагодзе крыху паварушыць мазгамі. Такім вось рэдкім, а можна хіба нават сказаць, што і неспадзяваным з'яўляецца фельетон Алеся Барскага „Разбой" з серыі „Беларускія капіталісты". На фоне публікаваных да гэтай пары манатонных маналогаў людзей з дакладна акрэсленым полам і ўзростам, маем эмацыянальнае апісанне абураючага інцыдэнту. Авантура гэтая так расхвалявала аўтара, што забыўся ён прывесці дакладную колькасць гадоў яе ўдзельнікаў, чаго дагэтуль ён вельмі скрупулёзна трымаўся. Хаця гэты разбой абурае мяне не менш за аўтара, пастараюся па меры сваіх магчымасцяў заспакоіць цікавасць чытачоў. Вядома мне, што адной з асоб, якіх прозвішчы паяўляюцца ў фельетоне, з'яўляецца сараканекалькігадовы мужчына. Адсюль трэба меркаваць, што асобы, якія з ім залажылі суполку таксама з'яўляюцца сараканекалькігадовымі мужчынамі. Гэта так дзеля фармальнасці, дзеля парадку — пара цяпер перайсці да істоты справы. Алесь Барскі з вялікім абурэннем апісаў разбой, учынены на месцы, якое адводзілася для таго, каб служыць беларускай справе. На жаль, не было гэта першае здарэнне такога роду — аўтару нічога невядома пра вельмі падобную авантуру, якая здарылася дзевяць месяцаў раней у Беластоку. У красавіку 1992 года група жулікаў напала на рэдакцыю беларускага тыднёвіка „Ніва" і вывалакла адтуль тэхнічнае абсталяванне для набору газеты і іншых беларускіх выданняў. Здарылася гэта ўпершыню за 36-гадовую гісторыю „Нівы". Шкада вельмі, што Алеся Барскага ніхто пра гэта на шматлікіх прэзідыумах, пленумах ці іншых сустрэчах не паведаміў і ён не меў магчымасці раней абурыцца на такое злачынства ў адносінах да нас, беларусаў, пражываючых у Польшчы. Хуліганы, якія напалі на абедзве беларускія ўстановы аднаго хову — яны не зрабілі гэтага па сваёй ініцыятыве, але кіравалі іх туды іхнія мафіёзі для праведзення вельмі канкрэтнай антыбеларускай работы. Думаю, што абураючыся на тое, што здарылася ў Варшаве, трэба мець на ўвазе і тое, што здарылася ў Беластоку. Прозвішчы ўдзельнікаў нападу на беларускі тыднёвік публікаваліся ў „Ніве" не адзін раз, што павінна дапамагчы аўтару змешчанага побач артыкула ў ягонай барацьбе са злачыннасцю. Спадзяюся, што Алесь Барскі паведаміць пра той беластоцкі гвалт Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь і яе пасольства ў Варшаве, і Міністэрствы ўнутраных і замежных спраў Польшчы, і Міністэрства культуры і мастацтва і ўсе іншыя ўстановы. Дзевяць месяцаў пасля гвалту паявіўся яго прыплод — дыму без агня не бывае. І ў Беластоку таксама знайшліся прадаўжальнікі нападаў на беларускія ўстановы — восенню скіны напалі на сядзібу Галоўнага праўлення БГКТ. У Бельску знішчана найбольшую беларускую школу ў нашай краіне. Чакаем з нецярплівасцю, што будзе далей. Алесь Барскі ў сваіх выступленнях перад шырокай публікай палымяна заклікае, каб не ўтоптваць беларускую справу ў гразь, каб шанаваць усё, што беларускае, роднае. Выйшла аднак неяк так, што гэтую кашмарную серыю гвалтаў у нашым асяроддзі пачалі згуртаваныя вакол яго члены арганізацыі, якою ён, 63-гадовы варшаўскі пан, кіруе. Саракагадовыя людзі пайшлі за прыкладам старэйшага пакалення. Хто будзе наступны?

Сто гадоў таму назад Уладзімір Ільіч Ульянаў (Ленін) заявіў, што з іскры разгарыцца полымя. Вялікі быў з яго прарок!

**А. ВЯРБІЦКІ**




## ШУМІЦЬ

Шуміць, бушуе непагода,
Ў дзяржаве йдуць наперабой...
І, быццам, курыцы на градку,
Усе пхаюцца вышэй, вышэй...

Калі прапхнецца да гаршка,
У мяккае крэсла сядзе ён, -
Забудзь тады свайго сынка:
Цябе ўжо ён не пазнае.

І так, браточку, паглядзі:
Жывуць усе як сабакі:
Кусаюць адзін аднаго,
Другім ліпнуць да ...

Калісьці быў панок пры ўладзе,
Глядзі цяпер, што нарабіў!
Няхай асудзяць самі людзі:
Сам сабе славу і зрабіў.

Калі ён быў каля кармушкі,
Што змог, згроб да сябе.
І, быццам, меў чыстыя ручкі,
Што зноў працягне да цябе.

А ты падумай, як пражыцці,
Безабаронны, сам.
За што рукою зачапіці,
Калі няма канца?

Штодзень цяжэй і даражэй,
А пенсія малая...
Ўжо думаў - крамы разбіваць!
А жонка - не пускае.

**М. ЛУК'ЯНЮК**




# БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

### ЧАСТКА XXVIII

## Разбой

Здарэнне, якое сёння апішу, як бы запярэчвае той ідэі, якой кіраваўся я, пішучы цыкл „Беларускія капіталісты", але пацвярджае кірунак мыслення амаль усіх маіх размоўцаў, якія схільны прыпісваць капіталізму звярыны дзікі характар.

Перайду я да хранікальнага апісання фактаў. У 1990 годзе ўзнікла ў Варшаве фірма „Біяполь". Заснавальнікам фірмы быў беларус з Беласточчыны Яўген Салагуба, акцыянерамі— дзеячы аддзела БГКТ у Варшаве Юрка Зюзя і Мікалай Алексяюк. Фірма дзейнічала як структура поўнасцю незалежная ад Таварыства. Аднак спалучала яе з Таварыствам тое, што яна наняла ад Таварыства адзін пакой і забавязалася плаціць арэндную плату за ўсе нашы памяшканні. Пачаткова фірма дзейнічала без унутраных канфліктаў і патрасенняў. У гэтым часе фірма не толькі аплачвала ўсе нашы памяшканні, але ўнесла сур'ёзны ўклад у фонд пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы, а таксама падаравала Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта камп'ютэр і друкарку, якімі мы да сёння паслугоўваемся з вялікім пажыткам і карысцю для дыдактычных і навуковых спраў. У сувязі з гэтым дарам я апублікаваў у „Ніве" артыкул, у якім шчыра падзякаваў „Біяполю" і напісаў, што такой фірме як „Біяполь" можна верыць. Аднак у хуткім часе сярод удзельнікаў фірмы ўзніклі вельмі сур'ёзныя канфлікты, якія датычылі недобрасумленных разлікаў шэфа фірмы Я. Салагубы.

Узнік канфлікт таксама паміж „Біяполем" і Таварыствам. Праяўляўся ён у тым, што Салагуба адказаўся плаціць новую арэндную плату за памяшканні і замест 6000000 злотых плаціў толькі 1200000. У такой сітуацыі працаўнік Варшаўскага аддзела Таварыства Фёдар Галёнка запатрабаваў, каб Салагуба вывеў фірму з памяшкання Таварыства.

Салагуба ў міжчасе да канца перасварыўся са сваімі сябрамі па фірме і залажыў новую, ужо толькі сваю фірму „Біяполь 2". У сувязі з тым, што сябра М. Алексяюк пратэставаў супраць гэтага, Салагуба стварыў новую фірму CO.LTD, якая сядзібу мае па-за Таварыствам, у Варшаве пры вуліцы Стэмпінскай 15.

Час дапамагаў адкрываць усё новыя нядобрасумленнасці шэфа ў фінансавых разліках паміж членамі фірмы „Біяполь". Эвалюцыя справы пайшла ў напрамку суда. Сябру Алексеюку ў раскрыцці нядобрасумленнасці Салагубы дапамагаў член Галоўнага праўлення БГКТ Ф. Галёнка. Усе мы думалі, што справу канчаткова вырашыць суд. Сталася аднак усё паіншаму.

Чацвертага студзеня 1993 года Салагуба запрапанаваў Галёнку і Алексеюку сустрэцца з ім у Таварыстве. Тыя не падазраючы нічога дрэннага, згадзіліся і адкрылі памяшканне Таварыства. Нечакана ў Таварыства прыйшоў Салагуба з дзевяццю асобамі. Частка з іх была ўзброеная палкамі. Салагуба ўвайшоў у памяшканне і крыкнуў сваім сябрам: брацы іх! Два здаравякі кінуліся на Галёнку, выкруцілі яму рукі і павалаклі, б'ючы і шарпаючы, у буфет. Рэшта накінулася на Алексеюка, б'ючы бязлітасна і замыкаючы яго ў туалеце. Тэрарызаваныя крычэлі: „Ратунку", што выклікала новыя ўдары з боку нападаючых. Інцыдэнт прадаўжаўся болей чым гадзіну. У гэты час агрэсары вынеслі з памяшканняў частку мэблі, прыладаў і дакументы.

Калі ўрэшце пакінулі памяшканне і пабітыя выйшлі з месцаў адасаблення, аказалася, што прыехала паліцыя. Аднак не ўвайшла яна ў памяшканне Таварыства, а толькі знаходзілася ў суседнім памяшканні. Разам з паліцыяй стаяла прадстаўніца фірмы „Dipservice", уласнасцю якой з'яўляецца памяшканні БГКТ і... вельмі спакойны Салагуба! Нягледзячы на патрабаванні Галёнкі і Алексеюка, на якіх было выразна відаць пабоі і парваную вопратку, паліцыя не ўвайшла ў памяшканне Таварыства і не забяспечыла слядоў злачынства. Спатрэбілася многа намаганняў, каб урэшце паліцыя згадзілася ўзяць з сабой пабітых у камісарыят і спісаць пратакол.

Эпілог гэтай справы вельмі сумны. Ужо назаўтра „Dipservice" памяняў у дзвярах памяшкання Таварыства замкі і адразу прыступіла да праведзення рамонту і прыстасавання памяшкання для сваіх патрэб. Прадстаўнікі „Dipservice" не ўпусцілі ў памяшканне ні Алексеюка, ні Галёнку, але ўпусцілі людзей Салагубы, якія ізноў вынялі рэшту дакументаў.

Прадстаўнікі „Dipservice" пазванілі ў пасольства Рэспублікі Беларусь і паведамілі, што беларусы пабіліся паміж сабою ў памяшканні, пад якім жывуць людзі з дыпламатычных пляцовак, кампраметуючы такім чынам фірму. У сувязі з гэтым „Dipservice" пераймае памяшканне назаўсёды. Такім чынам страцілі мы сядзібу, якую мелі многа, многа гадоў. Такім спосабам Салагуба „перадаў" ключы ад нашага памяшкання „Dipservice".

І што далей? Дзеяч Варшаўскага аддзела БГКТ Ю. Бусловіч сабраў вялікую кіпу дакументаў, якія могуць сведчыць аб тым, што напад меў прадуманы і запланаваны характар, а паліцыя не заняла ў гэтым інцыдэнце аб'ектыўнай пазіцыі.

Прэзідыум Галоўнага праўлення БГКТ правёў спецыяльнае пасяджэнне, пазнаёміўся з гэтай справай і дайшоў да вываду, што напад быў выразнай правакацыяй, сарганізаванай Я. Салагубам. У сувязі з гэтым, да сабраных ужо дакументаў мы далучым заявы непасрэдных ахвяр інцыдэнту: Алексеюка і Галёнкі ды накіруем справу ў варшаўскую пракуратуру. Паведамім таксама ўрад Польшчы, Міністэрства унутраных спраў, Міністэрства культуры і мастацтва.

Дзейнічаю я ў Таварыстве 36 гадоў, аднак першы раз сутыкаюся з фактам, які мае характар нападу, пагрому, разбою. Зразумела, што яго вырашэнне ў руках суда.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

**P.S.** Пішучы ў „Ніву" артыкул аб дары „Біяполя" для Кафедры беларускай філалогіі ВУ, я напісаў, што гэтай фірме можна верыць. Справа ў тым, што фірма „Біяполь" пасля адыходу Салагубы не перастала існаваць. Кіруе ёю Алексяюк. Праўда, існаванне яе мае тэарэтычны характар. Хочацца верыць, што яна разгорне свае крылы і зноў будзе прыносіць карысць не толькі акцыянерам, але і Музею, і Таварыству, і ўсім беларусам.

Прадстаўленая гісторыя дазваляе зрабіць яшчэ адзін вывад. Заключаецца ён у тым, што вялікія грошы могуць поўнасцю маральна разлажыць чалавека.

**А.Б.**

# Зорка
## Старонка для дзяцей

## ГЭТА БЫЛО ЗНОЙДЗЕНА НА РАГАЧОЎШЧЫНЕ

У 1969 годзе, раскопваючы старажытнае селішча на беразе возера Святое (Добрае) каля вёскі Ходасавічы Рагачоўскага раёна, археолагі натрапілі па рэшткі язычніцкага свяцілішча, дзе ў X - пачатку XI стагоддзя мясцовыя жыхары пакланяліся аднаму са сваіх багоў. На думку даследчыкаў, свяцілішча выглядала так. Першапачаткова ў цэнтры круглай пляцоўкі дыяметрам 7 метраў у зямлю быў укапаны драўляны ідал - вывява бога. Вакол пляцоўкі зрабілі кальцавую канаўку, у якой, відаць, стаяў вастракол або на святах палілі агонь. У размешчаных па баках ад асноўнага кола ямах-паўмесяцах гарэлі вогнішчы (магчыма, нязгасны агонь). У гэтыя вогнішчы вылівалі ахвярнае пітво, а гаршкі пры гэтым разбівалі.

Што цікава, гэтыя ямы-паўмесяцы дакладана арыентаваныя па баках свету. Мяркуецца, што гэтае свяцілішча прысвечана язычніцкаму богу грому, маланкі, апекуну вайсковай справы Перуну, паколькі яму звычайна прысвячаліся лічбы 4 і 8. У чатырох ямах можна бачыць і сувязь з уяўленнямі "пра ўсе чатыры бакі свету". Акрамя гэтага, знойдзена і меншае свяцілішча. Яно размяшчалася на ўсход ад большага і таксама складалася з круглай пляцоўкі, абгароджанай вастраколам. У цэнтры гэтага кола таксама стаяў ідал, але меншых памераў, чым на першым свяцілішчы. На адной з ім лініі, каля ўнутраных краёў агароджы, таксама размяшчаліся невялікія ідалы або штосьці іншае слупападобнае. На поўнач і поўдзень ад агароджы выяўлены дзве вялікія серпападобныя ямы. Са знешняга боку, каля паўднёвай сценкі паўднёвай ямы, маюцца сляды вогнішча. Магчыма, меншае свяцілішча было прысвечана мясцоваму богу, апекуну роду. Недалёка ад гэтых збудаванняў знаходзілася невялікае жытло, у якім, відаць, жыў жрэц. Помнік каля возера Святое размяшчаўся на тэрыторыі племяннога саюзу радзімічаў. Трэба меркаваць, што з існаваннем свяцілішча звязана і назва возера.

ЭДВАРД ЗАЙКОЎСКІ



*Школа ў Нараўцы* **Фота Я. Целушэцкага**

## ДАРАГАЯ "ЗОРКА"!

Жадаем табе ў Новым 1993 годзе многа поспехаў, а перш за ўсё - цікавых артыкулаў.

"Зорка", мы хочам пахваліцца перад табою сустрэчай, якая адбылася ў нашай школе ў Дубяжыне 3 снежня 1993 г. У гэты дзень прыехаў да нас Юрка Баена, беларускі паэт. Наведаў ён недалёкую ад нас мясцовасць, дзе нарадзіўся і вырас, дзе распачаў сваю навуку і працу. Госць расказаў нам пра сваё дзяцінства і раннюю маладосць, творчы шлях, прафесіянальную і грамадскую сваю дзейнасць. Прачытаў некалькі сваіх вершаў, потым адказваў на нашыя пытанні. Пытанняў мы мелі шмат. Юрка Баена стараўся аб усім вельмі дакладна і вобразна расказаць.

Цікава было пачуць пытанні нашай пані дырэктар, якая раней прынесла кнігу выпускнікоў дубяжынскай школы і хацела праверыць, ці наш Паважаны Госць памятае свае першыя крокі ў нашай школе, свае ацэнкі і прысутнасць на ўроках. Аказалася, што ўсё, што адбывалася многа гадоў таму назад у дзяцінстве, нясмелыя адказы на ўроках, сістэматычнасць, вельмі добрыя ацэнкі, настаўнікі - засталося ў памяці паэта да сённяшняга дня.

Потым Юрка Баена падпісаў нам свае зборнікі "Лісты блакітных успамінаў". Мы шчыра падзякавалі госцю за прыезд і ўручылі кветкі. Паэт упісаўся на памяць сустрэчы ў нашую "Залатую кнігу школы".

Гэты снежаньскі дзень быў для нас вельмі вясёлым і цікавым. Мы бліжэй пазнаёміліся з яшчэ адным прадстаўніком літаб'яднання "Белавежа" (Янка Целушэцкі і Віктар Швед былі ў нас у мінулым годзе). Гэтую сустрэчу таксама будзем доўга памятаць.

"Зорка", жадаем табе і нашаму госцю, Юрку Баену, усяго найлепшага, рашучасці і ўпартасці ў захаванні роднага.

**Вучні Пачатковай школы ў Дубяжыне**

## Для самых маленькіх

*МІРА ЛУКША*

**ВЕРАБЕЙ АНІКЕЙ**

Анікей сабраў сям'ю -  
Братоў, маму, татку:  
Дзе сяліцца восенню,  
У якую хатку?

Збудаваў бы, калі б мог,  
Зладзіў бы сам хату,  
Дзе і дзверы, і парог,  
Сцены, столь, пярнаты...

Але ж, як жа верабей  
Збудуе сялібу?  
Не падыме ж Анікей  
Ні страху, ні прызбу!..

Хто ў застрэшку зладзіў схоў,  
Хто ў гняздзейку ластаўкі,  
Не баяцца каб вятроў,  
Што зімою шастаюць.

Спадабаўся ж яму дом -  
Спраўны дом шпачыны,  
Цёплы, з кругленькім акном,  
Без адной шчыліны.

Да вясны пабудзе тут,  
А вясной - у поле.  
Знойдзецца і яму кут  
У зялёным голлі!

* * * * * * * * * * * * * *

*АНАТОЛЬ ВОЎКАЎ*

**СПРЭЧКА**

Гудзе стары сасновы бор,  
Спрачаюцца чагосьці  
Дрэў жыхары яго і нор,  
Трашчаць аж нават косці!  
Прайшло ужо амаль два тыдні,  
Як распачаўся ералаш,  
Здаецца, ведзьмы, д'яблы, злыдні  
Святкуюць разам свой шабаш!  
Усе пакінулі работу,  
Не да сваіх ім стала спраў.  
І маюць усе адну турботу:  
Хто ў іхняй спрэчцы будзе праў.  
Раптоўна ўсе каля бярлогі.  
"Суддзёй, - крычаць, - нам будзь, Мядзведзь!  
Хоць ледзьве нас трымаюць ногі,  
Тваё рашэнне хочам мець!"  
Тут задаваць і пачала  
Рысь гультаяватая пытанні:  
"Хто лепш, Мурашка ці Пчала,  
Працуе ўвесь дзень ад світання?  
І хто з іх да цямна найбольш  
Работы зробіць згодна плану?  
Без адпачынку хто найдоўж  
Быць зможа працы ўвесь адданы?"  
Мядзведзь нядоўга меркаваў,  
Патрабаваў адразу мёду.  
Пад'еўшы, пысу адарваў  
Ад апарожненай калоды.  
І, паабцёршы з морды пот,  
Ён адказаў: "Пчала, вядома".  
Тугі пагладзіўшы жывот,  
Адправіў ён гасцей дадому.  
Напэўна, з іх ніхто не ведаў -  
Пчале прыйшлося б цяжка,  
Сустрэлі бы Мурашкаеда -  
І першая - Мурашка.  
Пытанне ў нас да Рысі ёсць:  
"А дзе ж былі Пчала, Мурашка?.."  
Нам адказала Рысь праз злосць:  
"Яны заняты справай важкай!"

* * * * * * * * * * * * * * * * *

*ДЗІЦЯЧЫ ФАЛЬКЛОР*

Божая кароўка,  
Што заўтра будзе -  
Дождж ці пагода,  
Пень ці калода?  
Пагода - ляці,  
Дождж - сядзі.

Божая кароўка,  
Паляці да небка,  
Прынясі нам хлебка  
Чорнага і белага,  
Толькі негарэлага.

### ЧАМУ МЫЮЦЦА КАТЫ?

Штодзённы туалет ката тлумачыцца не толькі яго ахайнасцю. Яшчэ адна мэта туалету - злізаць з поўсці пэўную колькасць вітаміну B, неабходнага для захавання псіхічнай раўнавагі. Калі пазбавіць яго гэтай магчымасці, кот будзе нервозны, можа загінуць.

### ЦІ РЫБЫ НЯМЫЯ?

Прымаўка "нямы як рыба" не адпавядае сапраўднасці. Ля берагоў Кітая жыве цудоўная камбала - цынаглосус, гукі якой нагадваюць бой званоў, ігру на арфе, нізкія тоны аргана. Ёсць рыбы, "якія б'юць у барабан". Іх так і называюць - рыбы-барабаншчыкі. Рознагалосы хор барабаншчыкаў можна рэгулярна слухаць летнімі і асеннімі вечарамі ў розных раёнах Чорнага мора. Вельмі "балбатлівыя" марскія пеўні. Яны могуць свістаць, брахаць, гудзець, квактаць.

### ЦІ ЎМЕЕШ ДУМАЦЬ ЛАГІЧНА?

## ХТО ХЛУСІЦЬ?

Павел: Я - найвышэйшы.  
Коля: Я - меншы за Алеся, але вышэйшы за Паўла.  
Алесь: Я такога ж росту, што і Павел, але вышэйшы за Колю.

Адзін з іх хлусіць. Хто?

прыслаў **АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

## КАТОК І ЦВІЧОК

Каток Вася вельмі ласкавы. Асабліва да Юрачкі. Куды Юрачка - туды і ён. А Юрачка заўсёды дзеліцца з катком усім смачненькім.

Надоечы Юрачка сядзеў на лаўцы пры акне. Бачыць, паўзе Вася з аттапыранай задняй лапкаю. Дапоўз, а на лаўку ўзабрацца не адважваецца. Спыніўся і глядзіць на Юрачку. Нібы просіць: "Паглядзі, што з маёй лапкаю".

Прыглядзеўся Юрачка: у катковай лапцы тырчыць цвічок. Паклікаў бацьку. Разам і разабраліся, што здарылася. У доме рамантавалі мэблю. І некалькі цвічкоў засталося на падлозе. Адзін з іх стаяў старчма. Каток скочыў з лаўкі і якраз патрапіў лапкаю на вострую дзюбку цвічка.

- Трэба дапамагчы катку, - сказаў тата. - Баліць яму, беднаму.

Ён падняў катка і падаў Юрачку. Той прытуліў яго да грудзей, а нагу з цвічком пакінуў аттапыранай.

- Я моцна трымаю, тата.

Тата імгненна вырваў цвічок з лапкі. А шматок ваты, намочанай ёдам, паклаў на ранку і марлечкай перавязаў...

Так яны, тата і Юрачка, дапамаглі катку, і ён зноў весела бегае на чатырох лапках.

ПАВЕЛ КАВАЛЁЎ

# МЯДОК І МАЛІНКА

*КАЗКА*

У адным лесе жылі медзведзяняты - Мядок і Малінка. Адзін вельмі любіў мёд, другі - маліны. Праўда, часам было наадварот: Малінка запускаў лапу ў пчаліны вулей, а Мядок ласаваўся малінамі.

Жылі медзведзяняты ў розных канцах лесу і марылі пасябраваць. Калі адправіцца на пошукі салодкага ўдваіх, думалі яны, то і мёду, і малін можна знайсці ў два разы больш. Мядок уяўляў, як Малінка частуе яго мёдам. А Малінка ўяўляў, як Мядок прыходзіць у госці з лубянкай малін.

Але ні Мядок, ні Малінка не ведалі, як ім пасябраваць. Аднойчы сядзелі яны ў сваіх доміках, слухалі лясное радыё. І пачулі песеньку:

*З блакітнага ручайка*
*пачынаецца рака,*
*Ну а дружба пачынаецца*
*з усмешкі...*

Узрадаваліся медзведзяняты: вось, аказваецца, як усё проста. Сустрэліся яны і давай усміхацца адзін аднаму. Цэлую гадзіну ўсміхаліся, аж стаміліся.

- Ці не хопіць? - кажа Малінка. - Мы ўжо так наўсміхаліся, што нас цяпер і вадой не разальеш. Пойдзем лепш па маліны.

- Не, па мёд! - запярэчыў Мядок.

Доўга спрачаліся, але да згоды не прыйшлі. Рашылі адпачыць і селі пад старое дрэва. Чуюць, хтосьці гудзе над імі. Паглядзелі, у ствале дрэва - дупло. А ў дупле пчолы жывуць.

- Ага, - узрадаваўся Мядок, - трэба праверыць, ці няма тут мёду.

- Пачакай, я першы праверу, - падняўся Малінка і засунуў лапу ў дупло.

- Не чапай, гэта мой мёд! - закрычаў Мядок і стукнуў Малінку па галаве.

Малінка даў здачы.

А пчолы тым часам вылецелі з дупла і напалі на медзведзянят. Мядок і Малінка з усіх ног кінуліся наўцёкі.

Схаваліся яны ў нейкіх кустах. Калі трохі адсапліся, убачылі, што ляжаць у малінніку. А ягады такія буйныя ды спелыя, аж слінкі пацяклі ў абодвух.

- Маліннік мой, - заявіў Малінка і накінуўся на ягады.

- Не, не, мой! - закрычаў Мядок і адштурхнуў Малінку ўбок.

Зноў пачалі яны біцца. Качаюцца па зямлі, падмінаюць пад сябе малінавыя кусты. Усе ягады падушылі, і валтузіцца, глядзяць, няма з-за чаго.

Адвярнуліся адзін ад аднаго і задумаліся: чаму яны не могуць пасябраваць? Здаецца ж, усё рабілі так, як песенька падказала. "Відаць, песенька, якую па радыё перадавалі, няправільная", - рашылі медзведзяняты і рассталіся.

Не паспеў Мядок і некалькі крокаў ступіць, як праваліўся ў яму. І адкуль яна тут узялася? Глыбокая яма. Самому з яе ніяк не выбрацца.

- Вось дык праява! - занепакоіўся Малінка. - Хоць Мядок і задзіра, але ратаваць яго трэба.

Надраў ён ліпавай кары, звіў вяроўку і выцягнуў Мядка з ямы. Войкае Мядок, за лапу трымаецца. Відаць, моцна выцяў. Малінка пасадзіў яго на камень і кажа:

- Пачакай крышку, зараз я цябе вылечу.

І пабег шукаць мёду.

Мядок паласаваўся салодкім лякарствам, і адразу лапа балець перастала.

Павесялелыя, зноў адправіліся медзведзяняты на пошукі мёду і малін. Выйшлі да рэчкі.

- Зараз я пакажу табе яшчэ адзін маліннік, - сказаў Малінка і пабег па мосціку на другі бераг.

На сярэдзіне мосціка ён нечакана спатыкнуўся і паляцеў у ваду. Плаваць яшчэ не навучыўся, пачаў тануць. Мядок кінуўся на дапамогу і выцягнуў яго на бераг.

Нахлябтаўся Малінка вады. Ляжыць на беразе, вочы закрытыя, а з рота фантанчыкі пускае. Давялося Мядку самому маліннік шукаць і лячыць Малінку ягадамі.

Узяўшыся за лапы, адправіліся медзведзяняты далей. І Мядок, і Малінка цяпер ведалі, што песенька, якую пачулі па радыё, добрая, правільная. Яны ішлі і ўсміхаліся. Усміхаліся не так, як першы раз, а так, як усміхаюцца адзін аднаму сапраўдныя сябры - ад усяго сэрца.

**ЮРЫЙ ЗАРЫТОЎСКІ**

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Вася Вясёлкін у аддзеле радыётэхнікі.
- У вас каляровыя тэлевізары ёсць?
- Ёсць.
- Мне, калі ласка, зялёны.

* * *

Вася Вясёлкін на вакзале. Ідзе і грукае па вагонах.
- Ты што робіш?
- Шукаю мяккі вагон.

* * *

У аддзеле канцтавараў Вася Вясёлкін пытаецца:
- У вас сшыткі ў лінейку ёсць?
- Ёсць.
- А ў бубачкі?
Падыходзіць наступны Вася і кажа:
- Ідзі адсюль, не замінай працаваць. Ну і пакупнікі павяліся, адныя дурні.
- І не кажыце. А вам што?
- Мне, калі ласка, атрамант для сёмага класа і глобус Беларусі.

* * *

- На перапынках вучні катаюцца на парэнчах з першага да трэцяга паверха, - расказвае бабулі свае ўражанні са школы першакласніца Аленка.

* * *

- Раскажы пра свайго браціка Петрыка, які ён? - просіць Маша сваю сяброўку.
- У яго шэрыя вочы з радзімкай на носе...

***

- Птушкі сядзелі ў рад па шэсць чалавек, - расказвае матулі малая Зося.






























## ВЕР-НЕ-ВЕР

Прысніўся мне нядобры сон. Быццам я ў родным горадзе. Прыехала туды з таго мястэчка, у якім цяпер жыву. Іду са сваім бацькам у горад. Ведаю, што трэба наведаць хворую мачыху, якая быццам ляжыць у бальніцы. Я ў яе ўжо, здаецца, пару разоў была, і мне не надта хочацца ісці ізноў. Але разам з бацькам вырашаю ісці. Прыходзім да яе, а там не бальніца, а быццам таксама іхняя кватэра, ды іншая, а я яе не ведаю. У адным ложку ляжаць дзве паміраючыя асобы: мая бабка і мачыха. Прынамсі ведаю, што яны вельмі цяжка хворыя. Я падыходжу, тры разы ў губы цалую мачыху, а пасля столькі ж разоў бабку. І бацька мой, і бабка, і мачыха — усе яны ўжо нябожчыкі.

І вось ужо быццам я ляжу ў ложку, а недзе каля мяне знаходзіцца мая сястра. Не магу ўцяміць, ці яна таксама хворая і ляжыць, ці проста знаходзіцца недзе збоку. Перада мной стаіць вялізная міска з мясам. Гэта сырое мяса, быццам ялавічына. Ляжаць два вялізныя кавалкі, адзін з рэбрамі. Мяса цемнаватае, не надта прыгожае. Мне трэба яго змалоць. Быццам палавіну ўжо змалола, але на рэшту няма ў мяне сілы. Сястра прапануе, што яна гэта зробіць, але я кажу, што зраблю гэта сама. Аднак жа не маю сілы, каб устаць. На гэтым прачынаюся.

Вельмі баюся, шаноўны Астроне.

**Наталля**

І маеш рацыю, Наталля! Хаця сніліся табе найбольш нябожчыкі, якія прадвяшчалі б спакой і дабрабыт, але ўсё гэта прадстаўлялася табе ў такім кантэксце, што нічога добрага па іх спадзявацца нельга.

Цяжка хворыя бабка і мачыха, якіх ты на дадатак цалуеш у губы, бацька, з якім ты прыйшла, усё гэта ўказвае на нейкія турботы, звязаныя з фальшывымі сябрамі, а мо нават папярэджвае аб смяротэльнай небяспецы. Ды і тое тваё бяссілле, і сырое, не надта прыгожае мяса прадвяшчаюць няўхільную хваробу і смутак для цябе ці для тваіх блізкіх.

**АСТРОН**




## ХРУСТ

1. Гэты хруст будзе недарагі. Дастаткова ўзяць на яго 25 дэкаў мукі, 1 лыжку цукровай пудры, 3 дэкі масла, 1 яйка і 1 жаўток, 1 лыжку 6-працэнтнага воцату, 3 лыжкі смятаны. Для смажкі — 50—75 дэкаў шмальцу, а для пасыпання — 10 дэкаў цукровай пудры, змешанай з лыжачкай ванільнага цукру.

На вялікую дошку прасеяць муку і цукровую пудру. Дадаць мяккае масла, пасячы яго з мукой, спырснуць воцатам, дадаць яйка і жаўток ды смятану. Замясіць густое цеста. Мясіць яго доўга, загортваючы ў сярэдзіну і б'ючы валікам. Накрыць міскай і пакінуць на 30 мінут.

Частку цеста раскатаць, а астатняе прыкрыць, каб не сохла. Блін рэзаць на палоскі шырынёю 3 см, а пасля (ромбам) на даўжыню 10—12 см і надразаць уздоўж у сярэдзіне на 2—3 см. Праз дзірку працягваць адзін канец і так фармаваць хруст, пасля чаго класці адзін яго пласт у каструлю з разагрэтым тлушчам.

Хруст смажыць з двух бакоў, вымаць друшляковай лыжкай і сушыць на сіце. Складваць хруст на вялікую талерку, кожны пласт перасыпаючы цукровай пудрай з ванільным цукрам.

2. Гэты хруст будзе крыху даражэйшы. На цеста бярэм: 3 жаўткі, 1 яйка, 2 лыжкі цукровай пудры, 1/4 шклянкі смятаны, 1 лыжку рому, 2 лыжкі масла ці маргарыну, 25 дэкаў мукі; усё астатняе — як у папярэднім рэцэпце.

Жаўткі, яйка і цукар збіць венічкам дабяла. Даць смятанку, ром, муку і мяккае масла, добра перамяшаць і замясіць цеста, біць яго валікам, пасля пакінуць, накрыўшы, на паўгадзіны, тады фармаваць і смажыць.

3. На цеста бяруць 5 жаўткоў, 5 дэкаў кіслай смятаны, мукі столькі, колькі ўвойдзе, усе іншыя прадукты — як у папярэдніх рэцэптах.

Прасеяць на дошку каля 1 шклянкі мукі, замясіць яе з жаўткамі і смятанай, дадаючы столькі мукі, каб цеста не было занадта цвёрдае і каб можна было яго раскатаць. Збіць яго валікам. Далей усё рабіць таксама, як у папярэдніх рэцэптах.

**ГАСПАДЫНЯ**



## СВЯТЫНЯ Д'ЯБЛА І РЭЧАІСНАСЦЬ

Янка Целушэцкі змясціў на старонках „Нівы" (н-р 1914) сваю апрацоўку артыкула з бальшавіцкага часопіса „Совершенно секретно" і даў загаловак „Людзі з Маўзалея". Калісьці гэта магло быць нейкай сенсацыяй, але сёння? Я, як і многа іншых чытачоў „Нівы", ведаю, як горача бальшавіцкія сатаністы клапаціліся і надалей клапоцяцца пра захаванне як найдаўжэй трупа свайго ідала Леніна ў бальзаміраваным стане. Ён ім патрэбны для сваіх нікчэмных мэтаў: пустой гісторыі, запалохвання і абману наіўных людзей, а таксама для захавання сваіх пасад. Гэта ўжо трагедыя, калі людзі з нячыстага робяць святыню — маўзалей. Мяне здзіўляе, што сёння бедная Расея, якую да беднаты і галечы давяла ідэалогія Леніна і яго памагатых, не мае грошай на найбольш неабходныя патрэбы і, як жабрак, працягвае руку за міласцінай да нядаўніх сваіх ворагаў — капіталістаў: і яны дапамагаюць. А вось на кансервацыю трупа Леніна (а тут працуюць сотні вучоных) — грошай хапае. Вельмі дзіўна, не так? І вось такі акадэмік Сяргей Дзябоў, ды і не толькі адзін ён, лічыць маўзалей Леніна сваёй святыняй і яшчэ наракае, што цяпер многія людзі гэтага не разумеюць. А што ж тут разумець? Усё ясна: для камуністаў многа лягчэй верыць у стаўленніка д'ябла — Леніна, які з Расеі зрабіў аграмадную турму і сусветнага жабрака, чым паверыць у Жывога Бога. І пакуль над Расеяй будзе лунаць дух Леніна, а яго маўзалей будзе лічыцца святыняй, дагэтуль у краіне гэтай не бу-дзе ніякага толку і парадку; не будзе справядлівасці і пашаны для чалавека. Таксама незалежная Беларусь будзе незалежнай толькі на паперы.

Паважаны сп. Я. Целушэцкі! Пішыце ў „Ніву" лепш свае сенсацыйныя матэрыялы, у якіх будзе мова аб сапраўдных святынях, праваслаўных і іншых, якія знішчылі ленінскія сатаністы: напрыклад Храм Хрыста Збавіцеля і тысячы іншых храмаў, у тым ліку і на Беларусі. З гэтага будзе больш карысці.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

## КАСЯК НА "У,Ф,Х"




**Управа:** 1/ займаецца агульнымі ўласцівасцямі і законамі руху матэры, 2/ займаецца вывучэннем літаратуры і мовы, 3/ рахунак з вопісам адпраўленага тавару, 4/ найхутчэй яго сустрэнеш у Парыжы, 5/ паўднёвы сусед Беларусі, 6/ грызун сямейства мышыных.

**Улева:** 7/ займаецца будовай, саставамі і ўласцівасцямі рэчываў, 8/ займаецца вывучэннем мыслення і агульных законаў развіцця грамадства, 9/ пасля пахавання нябожчыка, 10/ паслядоўны запіс падзей, 11/ скрынка або чахол на вартасны прадмет, 12/ не праваслаўны і не католік.

**ядань**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдкацыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на касяк з 52 н-ра. Управа:** мазур, механік, меценец, матэрыя, малачай, молат. **Улева:** макет, Мухавец, мінерал, мецэнат, мышалоў, масаж.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Галена Тапалянская** з Трасцянкі і **Барбара Гура** з Любліна.

## ВІЛЕНСКІЯ БЕЛАРУСЫ ЗАПРАШАЮЦЬ

Таварыства беларускай культуры ў Летуве арганізуе 27 сакавіка 1993 года афіцыйнае адкрыццё помніка на могілках „Роса" пачынальнікам беларускага нацыянальнага адраджэння Івану і Антону Луцкевічам, прысвечанае 75 угодкам Незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

На святкаванне будуць запрошаны прадстаўнікі ўрадаў Беларусі і Летувы.

Таварыства беларускай культуры запрашае прыняць удзел у святкаванні таксама беларусаў з Польшчы.

Пачатак урачыстасці а 12 гадзіне на могілках „Роса".

Арганізатары просяць ахвотных удзельнічаць у гэтай урачыстасці загадзя паведаміць аб гэтым старшыню ТБК Хведара Нюньку; тэлефон у Вільні: 355595.




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міранович (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцыляры), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга.

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1993 r. upływa 20 lutego 1993 r.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 39 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. w I kwartale 1993 r. wraz z wysyłką wynosi 4000 zł., a kwartalnie - 52000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# МАКАТРАЗМЫ

**МЕНШАЕ ЗЛО**

— Не хачу, але мушу
Высцебаць тваю душу.
— А мне не спешна ў рай,
Грэшнае цела сцябай.

**ПОСТРАХ**

Заляцела ў мае сны стварэнне незямное.
Што са мною!
Што са мною!
Што са мною?!

**СІДАР МАКАЦЁР**

*З цыкла „Байкі"*
*АМБРОЗ БІРС*

**Уплыў навакольнага асяроддзя**

— Падсудны, — сурова запытаў Суддзя, — вас толькі што абвінавацілі ў забойстве. Прызнаеце вы сябе вінаватым, ці вы выхоўваліся ў Кентукі?

*З англійскай пераклаў*
*Алесь Кудраўцаў*

**СЕНТЭНЦЫІ**

Выцесаны з лёду ідал стаціўся перш чым знайшоў месца ў генах паклоннікаў.

* * *

Гісторыя хіхікае над магілай культавых ідэй.

* * *

Вечнасць карацейшая за хвіліну асуджанага на смерць.

**БАРЫС РУСКО**

# НІЎКА

Падаткі - заплаціў,
за кватэру - заплаціў,
за энергію - заплаціў,
за газ - заплаціў,
за ваду - заплаціў,
страхоўку - заплаціў...
Божа!!! Адкуль у мяне
столькі грошай узялося?..

*Малюнак М. Гайнаса /"Карузеля"/*

## АНЕКДОТЫ

Муж хутка прыбягае дадому, абдымае жонку і цалуе. Яны на міг забываюць пра ўсё на свеце.
— Ну, а цяпер, — пытае муж, — скажы, як ты знаходзіш мяне без вусаў?
— Ах, гэта ты?!

* * *

Размова паміж дзвюма сяброўкамі. Адна з іх выйшла замуж.
— Ну як, замужам лепш?
— Не лепш, але часцей.

* * *

Муж вяртаецца дадому, застае жонку з палюбоўнікам і збіраецца з ім расправіцца.
— Не чапай яго! — крычыць жонка. — Ён жывога Леніна бачыў!

* * *

Сустрэліся два сябры. Адзін тоўсты, другі худы. Тоўсты пытаецца:
— Слухай, Васіль, мы з табой раеснікі, у адным горадзе жывем, абодва інжынеры, харчуемся практычна аднолькава. І як табе ўдаецца такім стройным быць?
— А я бегаю кожную раніцу. Ад цэнтра горада да аэрапорта і назад.
— Далёка. А іншага спосабу няма?
— Ёсць, — адказвае Васіль. — Трэба ноччу любіць жонку 7—8 разоў, раніцою 2 разы, калі прыходзіш на абед хаця б 1 раз, і калі вяртаешся з работы — 2—3 разы.
Тоўсты чухае патыліцу:
— Слухай, Васіль, да аэрапорта не так ужо і далёка...

Падборку зрабіў
**ЯНКА ДАРОЖНЫ**

## МЫ ПАЧУЛІ

З размовы ў аўтобусе:
— Чым „Ніва" адрозніваецца ад „Часопіса"?
— Наогул, нічым. Абодва выданні калупаюцца ў хрысціянскіх вартасцях не горш за „Przegląd Prawosławny". Адно толькі, што „Ніва" гэтае робіць з маральнага абавязку, а „Часопіс" — з адміністрацыйнага...

* * *

Іншая назва (сінонім) хрысціянскіх вартасцяў у Польшчы: *wartości przymusowe.*

* * *

Антон Міранові заявіў, што ўжо больш не дасць аніякага інтэрв'ю Беластоцкаму радыё. Ягоная былая жонка думала, што ён стаў карэспандэнтам і падала на яго ў суд, каб засудзіць на большыя аліменты, бо ганарары за карэспандэнцкія паслугі не падае ён да ведама суда.
— Каб не гэтыя жонкі, Беларусь была б адной з наймагутнейшых дзяржаваў у свеце, — сказаў нам Юрка Ляшчынскі, штатны працаўнік Беластоцкага радыё (Юрка Ляшчынскі — нежанаты).

* * *

Мы пачулі, што наш рэдакцыйны калега Ян Максімюк не мае ў хаце спакою. Чаму? Таму, што мае камп'ютэр. Камп'ютэр адзін, а ахвотных ім карыстацца — пяць асобаў: ён, жонка, два сыны і брат (родны)...
Янка, нясі камп'ютэр у рэдакцыю!

* * *

З размовы на вуліцы:
— Чаму журналісты „Нівы" апошнім часам сталі так заядла працаваць?
— Таму, каб не слухаць, як ім вурчыць у жыватах ад голаду.
— Абяцалі ім павысіць зарплаты?
— Абяцалі падоўжыць працоўны дзень.

* * *

Апошняе пасяджэнне Прэзідыума ГП БГК адбылося ў пасольстве Рэспублікі Беларусь у Варшаве. Клас!

* * *

Сакрат Яновіч атрымаў узнагароду фундацыі POLCUL за „zbliżenie polsko-białoruskie". Заяўляе, што не ведае ні фундацыі, ні сумы грошай, якая яму перападзе ў кішэню. Стары хітрун.

* * *

Казік Семяняка піша кніжку пра Святую Гару Грабарку.

## З гісторыі беларускага нацыянальнага руху на Беласточчыне

Białystok, 1993.01.29

...NIKA
...czt. 149
...tok
...33

Pan
Jan Maksymiuk

Redakcja tygodnika "Niwa" informuje, iż z dniem 1 stycznia 1993 r. wynagrodzenie brutto Pana wynosi 1600.000 słownie: jeden milion sześćset tysięcy złotych

Warunki pracy pozostają bez zmian.

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Ты ў апошні час шмат пішаш пра фізічнае каханне. Не магу цябе зразумець: часамі ты вельмі сур'ёзнае, падыходзіш да жыцця паважна, часамі да непрызвaітасці фрывольнае, пішаш так, быццам бы смяялася з людскіх пачуццяў.
І не заўсёды бываеш сур'ёзнае тады, калі трэба. Напрыклад, апраўдваеш розныя адхіленні ад нормы. Сорам жа які! Я б на тваім месцы ўстыдаўся такое пісаць. Выліваеш наверх усе бруды, не ашчаджаючы нікога і нічога. Інтымных, прыватных таямніц для цябе няма. А наконт тых адхіленняў ад нормы дык ты высвініць гэтых людзей павінна, а не заахвочваць да такой ганьбы.
Каханне павінна быць чыстае, без ерасі. Дурныя думкі і ніякаватыя ўчынкі чалавеку на добрае не выходзяць. Усё павінна быць памяркоўнае — як улюдзей, а не ў звяроў.
Тым больш, што цяпер няма зашмат падстаў, каб весяліцца. Калі ў каструлю няма чаго ўкінуць — на каханне сілы не застаецца. А ў цябе каханне — быццам у раі. Разгледзься навокал: сумныя позіркі сумных людзей, нястрыжаныя галовы мужчын, жанчыны без прычоскі і не пахнуць, абутак выкрыўлены і стаптаны... А ты тут пра каханне галаву дурыш.
Зрэшты, само ты не ўмееш прэцызійна адказаць, вагаешся — мо будзе так, але ж можа здарыцца і інакш! Дык як рабіць, каб было добра?!
Даражэнькае! Задумайся над самім сабою. І выраш, як маеш пісаць, бо калі будзеш пісаць пра розныя дэвіяцыі, дык я дзякую — пастаю. Пішы па-людску і для людзей, а не для нейкіх вырадкаў.

**Дзядзька Антось**

А вось і няпраўда, дзядзечка Антось! Як мінімум пішу для нармальных людзей. А колькі табе гадоў? Мо ты пра тыя справы ўжо забыўся? А мо тваё жыццё было такое сумнае і аднастайнае, што і ўспамінаць няма чаго?! Шкада мне цябе, даражэнькі дзядзечка...
Ты кажаш, часы цяжкія настаі. Знаю гэта і без цябе. Але, калі хочаш ведаць, у цяжкія часы адно каханне і застаецца. Ну, як ты забавішся інакш, калі ў кішэні пуста?! А весялосць у пасцелі (з бясплатнай, вядома, партнёршай) грошай не вымагае. У бедных людзей дзяцей заўсёды многа: займацца гэтай работай — іх адзіная радасць. Нават і ў вайну, і ў канцэнтрацыйных лагерах радзіліся дзеці.
Дык што, мо гэтыя справы няважныя?! А ад калі справы сексу сталіся памыямі? Усё людское нам не чужое, а зрэшты тыя „памыі" выліваю не я, а людзі. Чалавеку, калі радасна, дык ён піша рэдка. У бядзе хоча падзяліцца з некім, пажаліцца, шукае апрабаты, дапамогі.
Але наогул у каханні бывае сумна і весела. Напераменү. Кожны чалавек іншы і справы яго інакш выглядаюць. Нельга не смяяцца, напрыклад, калі дзяўчыне дзіва, што цэлы месяц ходзіць з хлопцам і яшчэ не запрасіў яе ў пасцель. Але не да смеху нам, калі ў каханні шукаў шчырага людскога пачуцця, а натрапіў на нячулы камень.
Як адказаць тады чалавеку? Прамога, канкрэтнага адказу амаль ніколі не бывае. Зрэшты, лёгка даваць рады, выконваць жа іх намнога цяжэй. У жыцці можа здарыцца мільён варыянтаў — і на „так", і на „не", хаця пэўныя факты можна прадбачыць. Як будзе добра — даведаецца толькі зацікаўленая асоба.

**СЭРЦАЙКА**